Бібліятэчка часопісу
дзеяслоў

Уладзімер Арлоў

# паручнік Пятровіч
# і прапаршчык Здань

*Баллады*

Мінск
«Кнігазбор»
2018

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
А79

*Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў».*
*Выпуск 23.*
*Заснаваная ў 2006 годзе.*

*Фота на вокладцы: Лілія Мартынава (1-я стар.)*
*Андрэй Шаўлюга (4-я стар.)*

**Арлоў, У.**
А79 Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань : балады / Уладзімер Арлоў. – Мінск : Кнігазбор, 2018. – 132 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў» ; вып. 23).
ISBN 978-985-7180-95-0.

Балады Уладзімера Арлова, якія нарадзіліся на бязмежжы жанраў, лучыць асоба аўтара – паэта і гісторыка, вандроўніка і археолага ўласнай душы.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7180-95-0**

## *КАТ БАЛЬТАЗАР*

*Полацкая балада*

### *1*

у юнацтве кат Бальтазар
разам з вялікім князем і каралём
Янам Сабескім
ратаваў Еўропу ад туркаў
у бітве пад Венай
цяпер ратуе Полацак ад злачынцаў
жыве каля Чорнай рэчкі
кожнага дня ходзіць на працу
катаваць

кат Бальтазар важная персона
працуе з забойцамі
ведзьмамі
злодзеямі
блюзнерамі
старымі
маладзенькімі
прыгожымі
страхалюднымі
Трэці Літоўскі статут
дазваляе катаваць чалавека
тройчы на дзень
вольнага часу няшмат

кат Бальтазар забівае
валачашчых сабак
раз-пораз людзей
людзі падабаюцца болей
з людзьмі цікава паразмаўляць
асобы заўсёды неардынарныя
прысуды розныя

адных трэба павесіць
другіх чвартаваць
трэцім сцяць перад ратушай галаў
чацвёртых спаліць бо чарадзейнічалі
пятых чакае п*а*ля
калі зрабіць усё як належыць
з тым хто на п*а*лі
яшчэ доўга гаворыш

у ката Бальтазара нялёгкая праца
аднойчы вешаў суседа а той:
давай Бальтазарка хутчэй
у цябе ўжо рукі змерзлі

а неяк забіў сын бацьку
намучыўся кат Бальтазар з тым сынам
паводле артыкула 7 раздзела XI
Літоўскага статута
забойцу бацькі аддаюць смерці ганебнай
пазбаўляючы пачцівасці

кат Бальтазар ірваў таго сына
на рынку абцугамі
пасадзіў у скураны мех
укінуў туды сабаку
пеўня вужаку котку
зашыў мех
патапіў у Дзвіне

насупроць Святой Сафіі
дагэтуль чуе
як той мех вые крычыць скуголіць
адно забойца з вужакай маўчаць

кат Бальтазар ведае анатомію
чытаў кнігі Галена
мае дазвол лекаваць палачанаў
тых што ў вязніцы і тых што на волі
войт прыносіў яму кнігу Везалія
кат Бальтазар знайшоў
адзінаццаць недакладнасцяў
калегу бракавала практыкі

***2***

кат Бальтазар другі тыдзень
катуе вядзьмарку Юсту
з Млынавага завулку

кату Бальтазару даспадобы Юста
зялёныя вочы
чорная каса
налітыя грудзі ды крумянкі
голас якім спявае
*Зялёную вішню*
спявае падчас тартураў
быццам ідзе па-над Палатой
ведзьма яна і ёсць ведзьма

кат Бальтазар мае права
ажаніцца з асуджанай на смерць
уратаваць асуджаную
ад плахі вогнішча шыбеніцы

яе вочы валасы грудзі
засынаць з імі і прачынацца

збіраешся на працу а яна пяе
*зялёная вішня з-пад корня не выйшла*
*не дай мяне мама дзе я непрывычна*

***3***

кат Бальтазар жанаты
пяць гадоў таму пашкадаваў Адарку
удаву мечніка Няміры
сама і зрабіла сябе ўдавой

каб не пашкадаваў Адаркі
звязаў бы ёй рукі за спінай
закапаў бы Адарку
жыўцом у зямлю па плечы
паставілі б Адарцы ахову
вартаваць пакуль не сканае
кідалі б ахвочыя Адарцы
грошы на пахаванне

Адарку ж нікуды не падзенеш
а сны побач з ёю сняцца крый Божа
адны чыста шаблі канчары алебарды
якраз алебардаю развіталася
з каханым мужам

***4***

кат Бальтазар ведае ў Юсты
кожную костачку
кожную радзімку
кожны шнарык
ведае салёны пах поткі
кудзеркі над ёю
кожную незагоеную ранку
хацеў бы залізаць
што паробіш калі такая праца

*5*

кат Бальтазар пакутуе:
калі дапаможа Юсце ўцячы
самога возьмуць на тартуры
калі Юсту апраўдаюць
Юста з’едзе на Украіну
калі Юста прызнаецца
Юсту засудзяць
кат Бальтазар
зробіць тады ўсё як належыць

кат Бальтазар думае
раптам жонка Адарка памрэ?
хварэе ад самых Калядаў
а дзетак у іх няма
даруй Божа грахоўныя думкі

*6*

кат Бальтазар праціpae інструменты
раскладвае інструменты па шуфлядках
мые стамлёныя рукі
глядзіць на доўгія пальцы
маці хацела каб сын стаў лекарам

кат Бальтазар падыходзіць да вакна
сонца кранаецца Дзвіны
сонца такога ж колеру
як распаленыя абцугі
абцугі развязваюць языкі
самым негаваркім
здаецца зараз над Дзвіной
запахне паленай плоццю

кат Бальтазар глядзіць удалеч
сёлета высокая паводка

аднаго разу на крызе плыў кот
другога разу певень
учора плыла на крызе
чалавечая галава
глядзела на Полацак нібыта жывая
рукі паадсякаў бы гэтым жартаўнікам!

кат Бальтазар хоча Юсту
трымціць ад жадання
вылівае на голаў карэц вады
вылівае ў гарляк кухаль мёду-трайняку
як жа катаваць яе Божа!
у кожнай прафесіі свае недахопы

***7***

кат Бальтазар
гушкаецца на арэлях бяссоння і сну
устае падыходзіць да вакна
глядзіць на цёмную Дзвіну
адказвае на званок з Нью-Ёрку
вяртаецца да кампутара
піша раман пра сучаснае каханне

## *АРКАДЫ ПАДУІ*

*Элю*

### *I*

на донцы keліxa сум па барока
у Францішка праблемы не існавала
не існавала самога барока
ні Іль Джэзу ў Рыме
ні Божага Цела ў Нясвіжы

твой гатэль насупроць Святога Антонія
на сняданак прашута з марэлямі
калісьці ты прывёз такія з Адэсы
бабуля зарадавалася: марэлі!
ты спрабаваў пярэчыць: абрыкосы
марэлі дзетка марэлі
абрыкосы неяк брыдка

вярнуўшыся пачастуеш марэлямі
сонечную марэлевую істоту
марэльку на вусны
марэльку на шматзначную кропку пупка
марэльку ніжэй
ніжэй і глыбей
глыбей
не трэба баяцца
выцягнеш марэльку за срэбную нітачку
яна ўжо злучыла вас дотыкам да вечнасці
як далёка залятаеш
пасля ранішняга келіха ламбрускі!

Францішак заходзіць без чвэрці дзесяць
бярэ прашута
тры скрылікі дынькі
такога колеру пушок
над міжножжам у Вулі
у Вулляніцы з Запалоцця
у Вулечкі

Францішак адмаўляецца ад кавы
гарбата *Earl Grey* з цытрынай
цытрыну дастае з кішэні
выціскае тры долькі ў кубак
першы раз у каралеўскім садзе
саспела адзінаццаць цытрынаў
у зайздроснікаў саспела
роўна столькі ж даносаў:
русін вырасціў агіднае кіслоцце
зняць з яго прэміяльныя!

Францішак глядзіць *Euronews*
на бульвары Рамблас у Барселоне
аўтобус наехаў на мінакоў
трынаццаць загінулі на месцы
*Алах акбар!*
хтосьці абураўся: якая там вайна цывілізацый?

яшчэ гарбата  і тры долькі
учора адшчыкнуў цытрынку
у батанічным садзе
адразу накінуўся рой пчолаў
джаляць думаюць яму балюча
бароняць заразы цытрыны свая

## *II*

Ціт Лівій у такія раніцы
раіў келіх віна з трыма савінымі яйкамі
дзе іх узяць пакутліва думаеш ты
ля кенатафа Ціта Лівія
у *Palazzo della Ragione*
аднекуль умешваецца Шымборска
*як прадчуваная робіцца словамі*
*музыка лесу пяяная совамі*
*як фармулюе нам вожык апорыі*
*думалі спіць а ён бачыць гісторыі*
пакуль ні соваў ні вожыкаў
гісторыі відавочна прысутныя

у Падуі Лівій нарадзіўся
выпіў першы келіх
пакуль без савіных яек
стаў улюбёнцам
падуанскіх жанчын і падуанскіх соваў
з’ехаў у Рым
напісаў 142 тамы рымскай гісторыі
выпіў 1420
паводле іншых крыніц 14200
келіхаў віна з савінымі яйкамі
вярнуўся да падуанскіх соваў
усе дарогі вядуць у Рым
усе совы лятуць у Падую

пра яйкі пісаў і Стэндаль
Стэндаль любіў не назаўтра а на закуску
звычайныя курыныя
пацвердзяць табе ў кавярні Педрокі
а тая кавярня зусім недалёка
(увага! не збівацца на рыфму!)

Бог з імі
з яйкамі совамі Стэндалем
яечняй з шасцю зыркімі вочкамі
ты вырашыў неадкладна выпіць з Лівіем
найлепей схавацца за каменем ганьбы
на камень у *Palazzo* саджалі запазыкаў
саджалі без штаноў
сядзелі пакуль не адмярзалі яйцы
ну навошта так груба?
моршчыць пародзісты нос Марэля

калі цябе зловяць каб пасадзіць без штаноў
ты з гонарам скажаш: я п’ю фалернскае
фалернскае колеру растопленага на патэльні цукру
у дзяцінстве вы рабілі з такога цукеркі
ці рабілі цукеркі з цукру Хрыстос з Пілатам?
фалернскае яны бясспрэчна пілі
пілі Ціт Лівій з Актавіянам Аўгустам
Данатэла з Гатамелатам і Дантэ
Дантэ піў у суседнім доме

фалернскае скажаш ты
пілі кентаўры і кентаўрэсы з вашых фрэсак
адну бутэльку ты давязеш да Айчыны
там вядуцца такія кентаўрэсы...
на тваёй мове кентаўрыцы
яны дадуць падуанскім фору
асабліва Марэля
калі скачаш з ёю па лугах і лясах
узлятаеш да самых соваў
вожыкі адно лыпаюць вачыма

Францішак ведае пра савіныя яйкі
Ціт Лівій раіць на дадатак
смажаных канарэек з часныком і перцам
у Полацку абыходзіліся

халодным агурочным расолам
дзе яго ўзяць пакутліва думае Францішак
у палацы біскупа пасля экзамена
усё толькі пачыналася

***III***

у капэле Скравены
душу лашчыць думка
як непарыўна знітаваныя
грахі й мастацтва
ці займала гэта карузліка Джота?

*цяпер у нас без лёстак славяць Джота*[1]
у сёмым коле пекла чэрці Дантэ
катуюць Рэджынальда Скравены
сын Рэджынальда збудаваў капэлу тую
каб выкупіць грахі татулі-ліхвяра
а Джота запрасіў на аздабленне сцэнаў
вось так і нарадзіўся Рэнесанс
даволі ўжо радкоў рытмізаваных!
спыняе Марэля

*на Страшным су́дзе*
*усім у сраку будзе*
кажуць гэта Адам Міцкевіч

на Страшным су́дзе ў Джота
мужчыны адлучаныя ад жанчын
відаць каб хоць там не грашылі
бо да таго месца вялікую ласку імаюць
Марэля не пагаджаецца:
каб пакутавалі ў расстанні
аднаполыя варыянты вы не разглядаеце

перад Страшным судом Джота
Францішак бачыць Вулляніцу
залатыя слівы першых грахоў
макавы россып радзімак на шыйцы
чаму ў пекле параўнаўча з раем
усё больш дынамічна і вынаходліва?
абмеркаваць бы тое з Лютэрам
на жаль са старым ужо не пагаворыш
як ты пасмееў крычыць мяне апярэдзіць
шпурляецца чарніліцамі-каламаркамі
сцяна ўжо сіняя як дупа мерцвяка
у анатамічным тэатры

***IV***

у дзяцінстве ты марыў стаць паталагаанатамам
не хапіла руплівасці практыкі добрых настаўнікаў
ты заўсёды сачыў за поспехамі паталагаанатоміі
напісаў пра яе поспехі лірычны верш
заслужыў квіток у анатамічны тэатр
у заплечніку лусцік з прашута
біклажка з грапай
настальгія па бел-чырвона-белым сале

у той лістапад
гранту на тэатр яшчэ не было
у Палацы дожаў у Венецыі
хацелі фантастычны адкат
сем прафесарскіх чарапоў
у зале медычнага факультэта
мелі жывых уладальнікаў
з трыма Францішак выпіваў
Богу к пахвале і люду паспалітаму
дзеля добрае навукі

тэатр поўны чалавечых целаў
аншлаг маэстра аншлаг!
Венецыя дае два целы на год
мужчыну і жанчыну
сёння самагубіца з-пад моста *Rialto*

секутар робіць першы разрэз
так рэжуць спелую дыню
першакурснікі праз аднаго траццяць прытомнасць
ад салодкага паху выканаўцы галоўнай ролі
ад вітражу чужых вантробаў
ад голаду ва ўласных кішках

твой лусцік з прашута ідзе тугавата
асістэнты рыхтуюць печку
там вараць цела каб атрымаць шкілет
тлумачыць табе спалатнелы студэнт
павісае абмяклы на тваім плячы
секутар выразае сэрца
хто сказаў што мёртвыя не баяцца смерці?

Францішак дастае караімскі піражок з Трокаў
адпівае з біклажкі грапы
ён пачаў бы разрэз на цалю вышэй
ягоная Паола з умелымі рукамі вуснамі язычком
з аўстэрыі насупроць Святой Лючыі
некалі ператворыцца ў зграбны шкілецік
сёння ён будзе любіць яе асабліва жарсна
адкрые ў яе новыя брамкі
запоўніць яе цалкам
уявіць што падзяліўся на трох
нават на чатырох Францішкаў

ты старанна запіваеш свой лусцік грапай
анатамічны тэатр робіцца прытульным
маленькі мілы Калізей

калі-небудзь ты вернешся сюды з Марэляй
Марэля любіць тэатр
святлеюць яе вочы
калі каштуе яна гэтага мёду

***V***

ты хацеў бы вучыцца
у Падуанскім універсітэце
тут яго называюць проста Бо
ты хацеў бы вучыцца ў Бо
Бо тут вучыліся Везалій і Тарквата Таса
Бо тут праціралі штаны Капернік і Казанова
Бо ля паўднёвых сходаў
цябе сустракае Лукрэцыя Карнара
няхай бы сталася гераіняй
тваіх сноў і галюцынацый
Бо такі цёплы мармур
Бо такія жывыя блакітныя жылкі
Бо аголеныя плечы Лукрэцыі
хочацца пацалаваць ізноў
(яе доктарская ступень таксама натхняе)
Бо адной вельмі істотнай часткаю тваёй істоты
ты ўжо разумееш Пігмаліёна
Бо Тваё валадарства і сіла і слава

вы кажаце: на венецыянскім дыялекце
Бо гэта бык
на ўсіх тваіх дыялектах
Бо гэта Бо
так маленькі ты называў Бога
Бомы ў сенцах дзедавай хаты
Болю якая сведчыла што ты жывы
Бо цябе міласцівы Бог
з таго языка на свет пусціў

у Бо чуецца Борхес
*His end and his beginning*
Францішак сустракаў Борхеса
у Вавілонскай бібліятэцы
ты не памыліўся
сказаў Францішак:
Парацэльс аднавіў ружу з попелу
я стаяў за калонай
тонка ўсміхнуўся Борхес

Парацэльс падаруе ружу сіньёры Лукрэцыі
ты пацалуеш мармуровае каленка
(у сексалогіі гэта называецца фетышызмам)
адчуеш на вуснах кроў ад ружавых шыпоў
Марэля затрымціць ад рэўнасці
напішаш Марэлі *sms*:
назваў тваю радзімкуЛукрэцыя Карнара
адказ прыйдзе праз два дні
*primitivo*

***VI***

сутулы Гатамелата фларэнтыйца Данатэла
набіў аскоміну яшчэ ў мастацкай школе
цябе заслужана адлічылі
ты добра маляваў адных катоў
дакладней котак
у творы Данатэла
цябе цікавіць пастамент
склеп з двума дзвярыма
дзверы жыцця на замку
дзверы смерці як і мае быць наросцеж
Сенека задаволены
*дзверы адчыненыя можаш пайсці*

у Святой Джустыне мошчы святога Лукі
(яго не адлічылі з мастацкай школы)
адзіны з апосталаў не габрэй
адзіны неабрэзаны
ты ніколі не быў антысемітам
але прыемна ўсведамляць:
апосталам можа стаць не толькі габрэй

на сцяне базілікі направа ад уваходу
графіці з лічбамі
такое ты бачыў у Горадні на Каложы
*тут я і Нэлі саграшылі*
*пачалі 21.30 скончылі 22.15*
відаць былі школьнікі
або настаўнік і вучаніца
або вучань і настаўніца
можа настаўніца анатоміі
як некалі ў цябе

твой сябар дзяліўся:
з настаўніцай займаемся 45 хвілін
з дацэнткай акадэмічную пáру
дацэнтка любіла казаць вам
*секс дае адчуванне што мы жывыя*
называла твайго сябра мядовым катом
цяпер ён там
дзе ўсё больш дынамічна і вынаходліва
праўда настаўніцы і дацэнткі
асобна ад вучняў і студэнтаў
затое разам з вучаніцамі і студэнткамі
тут Джота даў пудлу

твой сябар быў скульптарам
так і не даведаўся што Гатамелата
у перакладзе мядовы кот
на памінках  дацэнтка

узяла пад сталом тваю руку
*мужчына не бывае старэйшым за жанчыну*
*якую ён зараз абдымае*
ты абяцаў падумаць над прапановай

пражскі рабін Лёў казаў Францішку
на гэтым свеце не здзіўляйся ніякай праяве
на тым свеце не здзіўляйся таксама
Голем моўчкі забаўляўся з айфонам

### *VII*

на Падую падаюць ападкі
у выглядзе мокрага дажджу
з пялёсткамі марэляў
нясіце прэч парасоны!
у часы перамогі на Сініх Водах
Венецыя дала грант
на бясконцыя лабірынты аркадаў

той лістапад
быў знобкі і мокры
дакладна як у Полацку
праўда ў Полацку няма аркадаў
гарачага віна з прыправамі і грапы
учора доктар медыцыны
Франчэска Фульманелі
узяў яго ў аркадах за гузік:
слухай цёзка чым у тваёй Гіпербарэі
ратуюцца ў непагадзь?
захапі наступны раз пляшачку
дзела пажытку добрага ў прадрыглым Бо

у падуанскіх аркадах
падуанкі аддана падаюць
у абдымкі чужаземцаў

так у вечаровым сутонні
падаюць у далоні
спелыя бэры і сапяжанкі
так падаюць на вусны
кроплі сляпога дажджу
у тваіх шыротах яго завуць
*слёзы прынцэсы*

твая прынцэса бярэ цябе за руку
потым за нешта яшчэ
вядзе пад скляпенні з соннымі кажанамі
там пахне канваліямі і кавай
там няма ўсталяваных за Неронам відэакамер
там прыходзіць на дапамогу паэт
*у жорнах дзён бязлітасных і мулкіх*
*вы схочаце на міг знайсці спачын*
*і ўспомніце шукаючы прытулку*
*абдымкі ратавальныя жанчын*
*і ўчуеце рыпенне ложкаў мяккіх*
*і шолах сукні і канвалій пах*
*і сэрца будзе гулка-гулка тахкаць*
*скрозь недавер застылы на губах*[2]
ложкаў няма
ложкі выкрасліў за саветамі пільны рэдактар
ёсць ціхія ўскрыкі
смех на зразумелай кажанам мове
гэта толькі працяг верша
ты чуеш Марэля?

кажаны вылятаюць на начны дазор
калісьці ты хацеў стаць кажаном
учаперыцца ў валасы
настаўніцы анатоміі
ты быў цяжкім падлеткам
настаўніца ўсё зразумела

*What is your name my darling?*
*My name is Padova*[3]
адказвае духмяная цемра

### *VIII*

на *Prato della Valle*
каб не згубіцца не разгубіцца
не шукаць паратунку ў канале
пачынаеш шукаць знаёмых

той сіньёр выліты ваш прафесар
прафесар быў улюбёны ў Рым і італікаў
натхнёна прамаўляў за далёкай катэдрай
вы глядзелі эратычныя сны
смакталі праз саломінку
вугорскае віно *Bikaver*
зялёныя пляшкі нагадвалі цэнтурыёнаў
аўдыторыя нагадвала амфітэатр
Наташа з вашай групы
рабіла на верхнім ярусе мінеты
свайму хлопцу з пятага курса
праз плошчу з цікавасцю назіралі
партрэты членаў палітбюро
на Доме ўрада
да Падуі было гэтаксама блізка
як да Марэлі
Марэля не хацела есці суп у дзіцячым садку
любіла збіраць з бабуляю дзьмухаўцы

на *Prato della Valle*
статуі славутых падуанцаў
не зводзяць з цябе вачэй
статуі пакрыёма мяняюцца месцамі
статуі не супраць каб іх стала болей
надакучылі за столькі гадоў адна адной

даведнік сцвярджае: статуй семдзесят восем
у цябе атрымліваецца семдзесят дзевяць

зноў семдзесят дзевяць
адна статуя відавочна дыхае
ля ног бляшанка з-пад цукерак *Mozart*
ты апускаеш у бляшанку два еўра
*grazie signor* кажа статуя
*let's have dinner shall we* кажаш ты
*sorry I can't I'm married*
адказвае статуя з польскім акцэнтам

Францішку прасцей чым табе
падумаеш нейкія статуі
сам стаіць у шасці гарадах
у чатырох краінах
самы недарэчны ў Празе
навошта яму пяро ў руцэ?
Францішак ужо тройчы адломваў
уторкнуў б скульптару тое пяро ў сраку
Міцкевіч быў бы задаволены

ты не дарэмна баішся статуй
у дзяцінстве начытаўся Мерымэ
начаваў дома адзін
прахапіўся а ў дзвярах
Венера Ільская
масянжовая
з пацінай
на ўзножжы як у Мерымэ
*CAVE AMANTEM*
*сцеражыся той што цябе пакахае*
працягвае да ложка рукі

ты думаў памрэш
не памёр

прыехаў у Падую
запытаўся ў юнай экскурсаводкі
ці былі ў яе галюцынацыі
ці чытала яна Мерымэ
адказ адмоўны
дарма што Кармэн
заўтра запытаеш пра іншае

## *IX*

у Зале сарака[4]
Кармэн ты і сорак кітайцаў
жуюць паціху ластаўчыны гнёзды
ведаюць кітайцы гнёзды свая

што ты хочаш спытаць у Францішка?
ці былі ў яго жанчыны ў Падуі?
*у Падуі была Паола*
*хацела ад мяне дзетку*
ці быў ён шчаслівы з Маргарытай?
*усё пачалося яшчэ пры жывым мужы*
*кожны мае права на таямніцу*

Францішак глядзіць на свой партрэт
худы голены коратка стрыжаны
хто гэты чалавек?
нічога дзіўнага
з мастаком яны сустрэліся ўпершыню
Джакома Форна[5] трыццаць тры
плямка вохры на лбе
падобны на дзятла
Беніта Мусаліні пяцьдзясят дзевяць
падобны на дучэ
да выхаду Італіі з вайны роўна год
*мастацтва належыць народу* абвяшчае дучэ
на плячо дучэ сядае матылёк з чорнымі крылцамі

мастак Джакома Форна жагнаецца
*Franciscus Skoryna de Poloczko* чытае дучэ
*там ваюють мае хлопчыкі*

Францішак памятае як у Беразвеччы
немцы расстрэльвалі палонных італьянцаў
адзін лейтэнант трымаў у руцэ рамонак
да астатняга імгнення абрываў пялёсткі
кахае – не кахае?
жыццё – небыццё?

Францішак бачыў дучэ і Клару Петачы
на міланскай бензакалонцы
Беніта і Клара не запраўлялі аўтамабілі
віселі дагары нагамі як упаляваныя

звяры ходзячыя ў пустыні ці знаюць ямы свая?
Францішак бачыў дом
дзе Беніта абняў Клару перад  расстрэлам
мастак Джакома Форна
не дачакаўся мемарыяльнай дошкі
Клару застрэлілі першай
Францішак паклаў пры дошцы
шэры каменьчык
Клара на партрэце такая летуценная

твая экскурсія сёння апошняя
пад партрэтам Францішка
катэдра Галілея
паўтара чалавечыя росты
у сярэдзіне можна схавацца
бюст Галілея не пярэчыць
табе робіцца горача
героі Джота
ужо валакуць цябе туды
дзе ўсё больш вынаходліва

*ты не хацела б застацца тут нанач?*
Кармэн не збіраецца стаць беспрацоўнай
Кармэн круціць пальцам каля скроні
выходзіць за кітайцамі
у катэдры можна выцягнуцца на падлозе
паслухаць як працуе шашаль гісторыі
цудоўная скажу вам калыханка

***X***

ты выбіраешся з катэдры
пасля кароткага здаровага сну
фрэскі плаваюць
у аліўкавым святле месяца
Стэфан Баторый мружыць вочы
Галілей парыпвае катэдрай
да проймы з анатамічнага тэатра
лепей не прынюхвацца

у дзверы шкрабецца мышка
зялёная сукенка з фальбонамі
пляшка *Primitivo*
такая самая ў тваім заплечніку
піца не паспела астыць
*заўтра мяне звольняць з працы*
Уільям Харві[6] з процілеглай сцяны
чуе як разганяецца твая кроў
ты даруеш мне Марэля?

Кармэн хоча зверху
зялёная сукенка не замінае
Зала сарака
поўніцца таемнымі рухамі
нявымаўленымі на розных мовах словамі

*напэўна я німфаманка*
*мне хочацца з усімі імі*
Галілей шкадуе што ён толькі бюст

Баторый гатовы ўступіць у гульню
Ян Кахано́ўскі цалкам на баку Баторыя
*як тваё сэрца?*
адкуль яна ведае пра сэрца?

Кармэн не збіваецца з рытму
назва рытму ўвекавечаная на фрэсцы
*de Poloczko*
*de Poloczko de Poloczko*
Галілей хутка грымнецца з катэдры
*de Poloczko de Poloczko*
чаму табе мрояцца залацістыя хрызантэмы?
*de Poloczko de Poloczko*
на партрэце Баторыя толькі карона і кніга
*de Poloczko de Poloczko*
на партрэце Яна Кахано́ўскага гуляе ветрык
*de Poloczko de Poloczko*

з-за катэдры выходзяць
Марэля і Францішак
Францішак у доктарскай мантыі
у руцэ ў Марэлі
залацістая хрызантэма

*6 жніўня 2017 г.*

[1] Радок з *Боскай камедыі* Дантэ.
[2] Верш Алега Мінкіна.
[3] *Padova – італ.* назва Падуі.
[4] Зала з партрэтамі сарака славутых іншаземцаў – выхаванцаў Падуанскага ўніверсітэта.
[5] Аўтар фрэсак у Зале сарака (1942).
[6] Адкрывальнік цыркуляцыі крыві.

## ***МЁД***

### ***1***

на цёплым срэбным бервяне
за бабулінай хатай
у высокай траве з рамонкамі
ямо свежы мёд з хлебам
я
Вова Патоцкі
Вова Таньчын
Нінка Тузава

мёд яшчэ не куплёны
хлеб пякуць у печы
мне дванаццаць гадоў
Нінцы на год болей
Вовам па чатырнаццаць
нашая смерць
яшчэ не нарадзілася

у Вовы Патоцкага чорная галава
прабабка саграшыла з цыганом
акурат як мая
Вова мне нібы брат
хоць у мяне галава рудая
мы з Вовам Патоцкім
паважаем цыганоў
як вырасцем
будзем красці коней

Нінка ўсё перасаджваецца
паміж трыма Вовамі
круціцца загадвае жаданні
ведаем мы твае жаданні
кажа Вова Таньчын
мы таксама ведаем

***2***

хлеб яшчэ не астылы
мёд у белай талерцы
на талерцы арол і свастыка
малако ў парцалянавых кубках
кубкі таксама белыя
таксама арлы і свастыкі
бабуліна памяць пра немца Паўля

мёд крапае Нінцы на грудзі
цячэ па равочку
у Нінчыны таямніцы
вучоныя яшчэ не зрабілі адкрыцця:
рэгулярна назіраючы жаночыя грудзі
пажадана аголеныя
пажадана вялікіх памераў
белыя чорныя жаўтлявыя
колер неістотны
карацей рэгулярна назіраючы
жаночыя грудзі
утрая менш рызыкуеш
адхапіць інфаркт ці інсульт

любаванне грудзямі
павялічвае жыццё мужчыны
у сярэднім на пяць гадоў
наконт уплыву
на жыццё ўладальніц грудзей

звестак няма
доследы працягваюцца
трэба даць гэтым вучоным
Нобеля

***3***

геніяльнае адкрыццё
зробяць ужо ў іншым стагоддзі
але на срэбным бервяне
інтуіцыя  не здраджвае
хачу хачу працягнуць жыццё
такім дзівосным чынам

ямо мёд з хлебам
хутка будуць першыя гуркі
Вова Таньчын стане даводзіць Нінку
што яна любіць болей
гуркі ці памідоры?

мы ўжо каштавалі
крадзеныя ў краме падушачкі
папяросы *Беламорканал*
самагонку
паўночную вусціш на могілках
бабулін пранік
а колькі наперадзе

***4***

праз год пасля таго мёду
Нінка спакусіць мяне ў лазні
сцягне праз галаў сукенку
скажа з нявіннай усмешкай
*пастаў мне палку*
атрымаецца цэлых дзве

праз трыццаць пяць гадоў
пасля таго мёду
Нінка памрэ ад раку грудзей
паспее на пяць гадоў
павялічыць жыццё
некалькім
ці некалькім дзясяткам
ці некалькім сотням
мужчынаў
грудзі былі сапраўды рэдкія

*5*

праз пяць гадоў пасля таго мёду
Вова Патоцкі паступіць на філалогію
пачне пісаць вершы
будзе чытаць мне вершы ў піўбары
вершы будуць пра смерць
пра паралельны свет
на адлегласці імгнення
пра свет дзе мы таксама існуем

Вова Патоцкі
паступіць у аспірантуру
выйдзе ў вакно з інтэрнацкага пакоя
на адзінаццатым паверсе
не вытрывае гэтага свету
ці таго што адкрыўся яму
на адлегласці імгнення
таго што зрабіў зусім белай
маладую цыганскую голаў
так і не ўкралі з ім ніводнага каня
нават шахматнага

*6*

праз дзесяць гадоў пасля таго мёду
Вова Таньчын не будзе
пісаць і чытаць вершаў
будзе чытаць налепкі на пляшках

на дваццаць пятым годзе
жыццё Вовы Таньчынага
замерзне ўзімку
пад матчыным плотам
Танька будзе галасіць:
не хавайце сыночка
пакладзіце Вову ў лядоўню
будзе даглядаць сыночка
пакуль сама не памрэ

*7*

праз сорак тры гады пасля таго мёду
у мяне здарыцца інфаркт
відаць замала глядзеў
на жаночыя грудзі
але глядзеў досыць каб выжыць
купіць квіток
прайсці пад дажджом
шэсць кіламетраў ад станцыі
знайсці за пустой бабулінай хатай
збуцвелае бервяно
дастаць з заплечніка
белы кубак з арлом і свастыкай
выпіць з яго ўтрая болей
дазволенай дактарамі дозы

***8***

Вова Патоцкі не памыляўся
усяго на адлегласці імгнення
мы
на цёплым срэбным бервяне
за бабулінай хатай
у высокай траве з рамонкамі
ямо свежы мёд з хлебам

чмель лётае вакол Нінчыных грудзей
павялічвае сваё чмялінае жыццё
Воваў зноў трое
у аднаго галава чорная
у другога цвярозая
у трэцяга кружыцца як зірне на Нінку
у штоніках нешта варушыцца

Нінка круціцца паміж намі
загадвае жаданні
Вова Таньчын
выконвае жаданні ў адрыне
на старым драўляным ложку
ці не там мая прабабка з цыганом...
Вова Патоцкі
чытае нам вершы

*а можа побач з намі іншы свет*
*у часе на адлегласці імгнення*
*і можа іншы ты у ім жывеш*
*і можа ў цябе чыстае сумленне*

## *АЛЕКА*

### *Балканская балада*

*Пенцы Кыневай*

### *1*

*Nulla dies sine linea*[1]
адзін дзень *sine linea*
другі дзень *sine linea*
трэці дзень *sine linea*

за вакном вальеры
(так завецца твой кабінет)
маўчыць сарока Соня
мокрая
без парасона
без навінаў
глабальнае пацяпленне не лічыцца
трэці год запар
у Менску дождж на Каляды

табе сніцца млын
вадзяны
лясны замшэлы
малоў яшчэ каліноўцам
усё як мае быць
жорны
прывіды
сам*ы* пад колам
вадзянік з русалкай

падымаешся на досвітку
ідзеш на млын
будзіш вадзяніка
русалка не хоча прачынацца
вадзянік і русалка сустракаюцца
у сэнсе блізка сябруюць
п’яце ўтраіх каву
кранаеш употай русалчыну руку
рука цёплая
лепей пра гэта маўчаць:
вадзянік утопіць русалку
заадно і цябе

у млыне бела рыпліва завозна
касінеры ідуць без чаргі
на дваіх тры рукі
як там было пад Мілавідамі[2]?

чацвёрты дзень *sine linea*
затое са снегам
выходзіш з млына
пішаш на снезе дрэннае слова
табе падабаецца
яшчэ два дрэнныя словы
вось і першы радок

у млына зімовыя вакацыі
сам*ы* накрыліся хвастамі
прывіды не любяць марозу
вадзянік з русалкаю грэюцца пад лёдам
хутаюцца ў русалчыны косы
чаму ты не вадзянік?

сарока Соня чытае твой радок на снезе
ухвальна ківае
чысціць сухія пёркі

*ціха ўсюды глуха ўсюды*
*нешта будзе нешта будзе*

***2***

муза прылятае ў вальеру
у сутонні
у бруснічнай сукенцы
у бруснічных панчошках
у празрыстых карункавых майточках
майточкі ляцяць на кампутар

вядзеш музу да пісьмовага стала
там усё зазвычай і адбываецца
музе даспадобы што адбывецца
даспадобы што ты шэпчаш у вушка
дрэнныя словы
што ты пішаш дрэнныя словы на снезе
даспадобы што ты пішаш асадкай
муза кажа: як у часы Троі
ставіш ёй на пісьмовым стале
незалік па гісторыі

у вальеры застаюцца
тонкі водар спермы
некранутая кава
кранутая пляшка чырвонага
павучок на томе Борхеса
закладка на *Мужчыне з Ружовай кавярні*
майточкі на маніторы
праз майточкі свіцяцца навіны
прыходзяць лісты
ці мае Борхес *e-mail?*

сарока Соня сакоча
быццам уставілі ў адно месца

завадны ключык
ліст з Сафіі
табе прысудзілі прэмію *Алека*
Алека балгарскі класік
ты ніколі не чуў
ставіш сабе незалік
па балгарскай літаратуры

### *3*

Алека Канстанцінаў
нарадзіўся ў год бітвы пад Мілавідамі
у Свіштаве на Дунаі
вандроўнік
паўтузіна псеўданімаў
найлепшы – Башыбузук
у трыццаць чатыры
засада на горнай дарозе
куля ў сэрца
астатняе ў сеціве

сярод лаўрэатаў
Генрых Бёль
Уільям Сараян
Марці Ларні
Васіль Аксёнаў
з паважных прычын ніхто не пад’едзе
нават Марыс Друон

калі верыць у памяць продкаў
Друону павінна сніцца Вільня
павінна ж *там* нешта сніцца
успамінацца
чытацца
выпівацца
яшчэ колькі дзеясловаў на *цца*

ёсць шанец запытацца
пажадана не вельмі рана
але не надта позна
раптам забудзеш *што* хацеў запытацца
Альцгеймер дрэнны падказчык
нават у чыстцы
або вышэй ці ніжэй
кажуць ніжэй цікавейшая кампанія

*Люфтганза* страйкуе
лайнеры канкурэнтаў
штодня знікаюць з радараў
адвозяць пасажыраў да Бёля
да продкаў Друона
проста да продкаў
або да нашчадкаў у пятым калене
даруйце але табе спачатку
трэба атрымаць прэмію *Алека*

бярэш квіток на цягнік
купэ на аднаго
два дні і дзве ночы
краявіды
музы
начныя сатурналіі
засады на горных дарогах
так ездзіў Алека

***4***

ты адзін у купэ
адзін у вагоне
магчыма у цэлым цягніку
(так і мусяць ездзіць лаўрэаты)
плюс два маскоўскія праваднікі
Саша спіць як мядзведзь у мярлозе

Гена чытае *Востраў Крым*
ты чытаеш айчынныя газеты за тыдзень

смеццевы кантэйнер працуе бездакорна
электроннае табло таксама не падводзіць
за бортам нязменна мінус 51
на борце плюс 70
час 12.40
магчыма час правільны

у цягніках час ідзе іначай
разганяецца на перагонах
спатыкаецца на станцыях
хаваецца за валізкамі
паварочвае назад
прывозіць успаміны

у дзяцінстве
ты безразважна гуляўся з часам
загадваў спыніцца
бегчы ў адваротны бок
лавіў час у прыгаршчы
мыў часам твар
рызыкаваў што час пакрыўдзіцца
дзесяцігоддзі прамільгнуць днямі
быў хлопчыкам а ўжо дзядуля
або наогул надмагільны помнік
час шкадаваў цябе
яшчэ толькі 12.40

час пазвоньвае лыжачкай у пустой шклянцы
няўжо час памятае мелодыю *Eight Days a Week?*
яны ж так рэдка гралі яе
Ленану чамусьці не падабалася
называў яе вашывай
вядома глупства

калі Ленан граў апошні раз
табе было дваццаць сем
маці спытала чаму ты плачаш
маці не хацела каб ты стаў пісьменнікам
гэта ўжо іншая гісторыя

ідзеш да Гены па кіпень
на століку ў Гены твае газеты са сметніцы
Гена: *я потрясён!*
*я думал вы против батьки*
*а вы против России и Путина*
ты: *теперь не дадите мне кипятка?*
Гена: *кипятка дам!*

***5***

ва Украіне вайна
маскоўскі цягнік блытае сляды
ідзе на Варшаву
Браціславу
Будапешт
Бялград
можна сустрэць самога сябе
або выйсці
у браціслаўскім музеі гадзіннікаў
некалі ў гэтым музеі табе заманулася
стаць гадзіннікам
ісці
спазняцца
спяшацца
рамантавацца
ісці пакуль не скончыцца гарантыйны квіток
стаць дасканалай часткай пясочнага гадзінніка
з суседняй вітрыны
куды толькі ні завядзе мензурка
тваёй цыганскай крыві

засынаеш на сербскай мяжы
табе сняцца горы і зоркі
што вышэй?
напэўна анёлы й анёліцы
цікава якія ў іх стасункі паміж сабой
а таксама з русалкамі

зімовая ноч доўгая
асабліва на Балканах
табе сняцца сны пра дзіцячыя сны
тады сны ўваходзілі ў спальню
на высокіх мяккіх лапах
схіляліся над ложкам
цалавалі цябе ў лоб
у дрыготкія павекі
у вузкія прыцэўкі
у пальчыкі на нагах
калі пальчыкі вызіралі з-пад коўдры
калі памрэш
ты хацеў бы стаць
дзіцячым сном

цябе будзіць стрэл
за ім аўтаматная чарга
горы ўмеюць расстрэльваць сны

хто гэта сказаў пра час:
мы тут былі і адбыліся?
маўляў мілы прытулак
пяшчотны і эфемерны
твой варыянт пазбаўлены лірыкі:
былі і не адбыліся
развеяліся ў экзістэнцыйным тумане
у мілым пяшчотным прытулку
дзе над ложкамі схіляюцца
пачвары і дэманы

зноў стрэлы
добра было б загінуць у цягніку
асабліва калі ты адзін у купэ
адзін у вагоне
асабліва калі ты лаўрэат прэміі *Алека*
будзеш ехаць ехаць ехаць
*туды*
потым назад дадому
але заўважце – таксама *туды*
калі балгары людзі без забабонаў
ты мог бы вярнуцца з прэміяй
капэрта ў кішэні
медаль на штрыфелі пінжака
у цырымоніі ўдзельнічалі Бёль і Друон

раніцой яшчэ Сербія
мерцвякі разам з могілкамі
урачыста ўзыходзяць на горы
селевыя плыні смецця
спускаюцца ад вёсак
па смарагдавых схілах
у гарадах і мястэчках
павольна канае кірыліца
калі ты астатні раз бачыў вакзалы
з фанеркамі ў вокнах?
у чорна-белых фільмах
пра нашых і немцаў

***6***

у цэнтры Сафіі
помнік балгарскім лётчыкам
ваявалі на баку немцаў
баранілі Стары горад
ад англійскай ды амерыканскай авіяцыі
не абаранілі

2000 бомбаў за адзін ціхі вясновы вечар
чырвоныя ружы
ля помніка капітану *Люфтвафэ*
Герхарду Венгелю
вечная памяць героям!

у тваім Полацку
немцы не абаранілі Стары горад
ад авіяцыі савецкай
потым цябе вучылі ў школе
маўляў фашысцкія захопнікі
знішчылі гістарычны цэнтр
каму ставіць помнікі?

Буюк-мячэць ператвораная
у археалагічны музей
калі-небудзь для новай экспазіцыі
археолагі прапануюць лэптоп
*Reader*
смартфон з базай дадзеных
твой спадарожнік Румен:
праз трыццаць гадоў тут зноў будзе мячэць
адзінае суцяшэнне – ён не пабачыць
чаму не пабачыць?
цяпер яму шэсцьдзясят шэсць
ты таксама спакойны

у мастацкай галерэі выстава Пікаса
белы абрус з плямамі
кольцы ад шклянак з чырвоным
тлушч
сляды губной памады
нешта малочна-белае густой кансістэнцыі
*Полудзень мастака*
дата і подпіс *Picasso(?)*

вы з Руменам можаце не горш
выбіраеце кавярню з белымі абрусамі
акрапляеце абрус знаёмым вінам
вы пазнаёміліся ўчора ўвечары
пазнаёміліся вельмі блізка
можна сказаць інтымна
шчасліва заснулі і прачнуліся разам
у сэнсе не з Руменам а з вінам *Мезек*
кроплі на абрусе
проста журавіны на снезе
вакол твайго млына

у вашай палітры
аліўкавы алей
папрыка
соус песта
агністы кетчуп
свае барвы дадаюць талеркі з *агнешкай*

афіцыянт: адміністратара ці адразу паліцыю?
Румен: мы хочам купіць гэты абрус!
яшчэ адзін *Мезек*
ты: а як наконт губной памады?
наконт нечага белага густой кансістэнцыі?
Румен: творчы акт у працэсе

***7***

тваю перакладчыцу завуць Пенка
ты распавядзеш ёй як любіў пенку ў дзяцінстве

мама ў белым хвартушку варыць сочыва
варыць у сінім эмаляваным тазе
ты разам з залацістымі восамі
прагна чакаеш пенку пенку пенку
ружовую пухнатую паветраную пенку
ад трускалак суніц вішняў чорных парэчак

найлепшая ад маліны
мама кажа
*у пенцы зварыліся чарвячкі*
ты радасна згаджаешся
аблізваеш лыжку
заплюшчваеш вочы ад асалоды

Пенка пераклала *Лаліту*
*Чорны замак Альшанскі*
твой *Ордэн Белай Мышы*
колькі ёй гадоў?
не Белай Мышы а загадкавай Пенцы
ты скажаш: з дзяцінства любіў пенку
салодкую гарачую пенку
скажаш лёгка і ўпэўнена
у Пенкі будуць цёплыя рукі
у цябе салодкія ад пенкі вусны

у Пенкі цёплыя рукі
арэхавыя вочы
пачуццёвыя вусны
зграбныя кійкі-мыліцы
ты думаў яна Лаліта?

Пенка таксама п'е чырвонае
таксама гістарычны факультэт
выкладала
мела праблемы з уладай
цяпер выкладае табе
тэма *Тры расейскія акупацыі*
першая змяніла турэцкую
другая пасля Другой сусветнай
трэцяя цяпер
скупілі ўсё ўзбярэжжа
Расея як мядзведзь ля плоту цывілізацыі
самая трагічная памылка балгараў
іхняе русафільства

з Пенкай час інакшы
выразна балгарскі
македонцы гэта балгары
Кіеў заснавалі балгары
магіла хана Аспаруха[3] каля Запарожжа

для вас у студзені плюс пятнаццаць
зорнае неба таксама заснавалі балгары
прынамсі над Балканамі
вуснамі валадарыць
пенка ад малінавага сочыва

***8***

там за пераваламі Свіштаў
*Алека*
засады на горных дарогах
пасля бяссоннае ночы
маеш поўнае права
на нездаровы неспакойны сон

вальера пératворaная ў млын
жорны мелюць пустыя пляшкі з-пад *Мезеку*
муза ў абліччы русалкі
русалка ў абліччы Пенкі
нясіце прэч медыкаменты
разам з кійкамі і мыліцамі!
наёмныя забойцы
заснулі ў абдымках арэядаў і напеяў

наяве рэстарацыя *Калгары*
пяць дзён лаўрэат балюе за кошт мэрыі
найлепшыя стравы
калекцыйныя віны
застоліцы ў стылі пана Дубатоўка
*nulla dies sine ampulla*[4]

адміністратарка: уявіце што перамог камунізм
сафійскі рэдактар тройчы жагнаецца
ты ўзгадваеш камунізм свайго дзяцінства
у сталоўках дармавыя гарчыца і хлеб
вясёлыя дзядзькі прыходзяць з пляшкамі
разліваюць
намазваюць гарчыцу на хлеб
чаркаюцца:
ты малец будзеш жыць пры камунізме
калі там не будзе гарэлкі
нах.я нам такі камунізм!

ты: чаму *Калгары?*
гаспадар быў на той алімпіядзе
бабслей
балгары спартыўная нацыя
сафійскі рэдактар меланхалічна:
балгары занялі апошняе месца

назаўтра вядома *Калгары*
ты адзін за столікам
адзін у цэлай рэстарацыі
(так і мусяць вячэраць лаўрэаты)
плюс дзесяцігадовы *Мавруд*

другая пляшка ўключае *Eight Days a Week*
запускае архіўную хроніку
з экрана сыходзяць  не бітлы
трое калегаў з іншасвету
падсаджваюцца просяць наліць
адзін пакінуў запавет
на надмагіллі выбіць эпітафію
*ён кінуў піць бо – спіць*
выбілі пра Радзіму
таму і не кінуў
з якога свету прыйшоў
мужчына з Ружовай кавярні?

замаўляеш усім дунайскую рыбу
сом судак стронга селядзец
русалка кажа пароль
*чуюць віры свая*
русалка без вадзяніка
гэта абнадзейвае

на даляглядзе новы персанаж
адно з двух: бандзюган або целаахоўнік
застоліца разбягаецца
застаюцца
мужчына з Ружовай кавярні
русалка з келіхам у недрыготкай руцэ
ты з хвастом селядца
бандыт або целаахоўнік:
я – гаспадар!
ты сам сабе: зараз адбярэ *Мавруд*
гаспадар: злы чалавек сказаў табе
балгары занялі апошняе месца
запомні:
балгары занялі 25-е месца!

гаспадар ляпае цябе па плячы
мужчына з Ружовай кавярні
ляпае па плячы гаспадара
русалка пытаецца
колькі ў Калгары было бабслейных каманд
гаспадар замаўляе *Мавруд*

***9***

там за Дунаем Румынія
ніякая не Румынія кажа балгарскі калега
там такія самыя балгары
проста ім забаранілі гаварыць па-балгарску
цяпер ужо не ўмеюць

але маўчаць – павер
яшчэ па-балгарску

на стромым беразе помнікі
белы мармур
зялёны мох
залатыя літары
*поручикъ Петровичъ*
*прапорщикъ Здань*
тут расейская армія фарсіравала Дунай
балгарскі калега:
*фамилии какие-то нерусские*

цяпер ты разумееш хто стаяў ля вакна
у закінутым доме насупроць гатэля
стаяў глядзеў на цябе
танклявы светлыя вусікі
маўчаў па-беларуску

паручнік Пятровіч прыходзіць у наступную ноч
ведае што ў гатэлі ты адзін
(так і належыць лаўрэату)
адчыняе вакно
падхорцісты голены
глядзіць з табой на поўню
курыць пускае срэбныя кольцы
не хоча раставаць у месяцавым святле

***10***

у музейнай вітрыне шкляны цыліндр
у цыліндры спірт
у спірце прабітае куляй сэрца
сэрца балгарскага класіка
Алека Канстанцінава
у цябе нецвярозая думка:
ці цвярозае гэтае сэрца?

выходзіш з дома-музея
у небе над Дунаем не аблокі
сэрцы пісьменнікаў
Алесь Дудар
Міхась Чарот
Платон Галавач
Міхась Зарэцкі
Тодар Кляшторны
Мойшэ Кульбак
сталі аблокамі за адну кастрычніцкую ноч

выпіваеш у гатэлі пляшку віна
выганяеш русалку
накрываешся з галавою коўдрай
прыходзіць выратавальны сон
піраміда з бясконцых цыліндраў
цыліндры са спіртам
з прабітымі сэрцамі
раней ты думаў іх стралялі ў патыліцу

сэрцы жывыя
адбіваюць свае рытмы
шукаюць рыфмы
найбліжэйшы Алесь Дудар
пачынаеш чуць радкі
*о дух наш вольны дзе ты дзе ты?*
*ім мураўёўскі б гальштук ўздзець*
*нашчадкам мураўёўскім гэтым*

на цыліндрах з сэрцамі імёны
шукаеш сваё
шукаеш са страхам
са спадзевам
з астатняй надзеяй
не знаходзіш
прачынаешся з думкаю: *не заслужыў*

## 11

калі ў чалавека няма пачуцця гумару
у яго мусіць быць пачуццё
што ў яго пачуцця гумару няма
у цябе ёсць пачуццё
што ў цябе пачуццё гумару ёсць
таму так светла і радасна жыць
у прыватнасці на банкеце ў гонар лаўрэата

за столікамі
выключна літаратары і літаратуразнаўцы
у літаратараў вакол мэра
злева ўнізе дудурацца пінжакі
вядома там кнігі ды рукапісы

табе здаецца
правадыр тутэйшых туркаў
галоўнейшы за мэра
цікава ці чытаў ён Архана Памука
напрыклад *Стамбул*
двое ў пінжаках падымаюцца насустрач
гатовыя адказаць на любыя пытанні
ці чыталі яны *Стамбул?*
адказ: Стамбул сталіца Турцыі
ты не спрачаешся

пакуль маўчала сарока Соня
туркі прывялі да ўлады новага мэра
былога мэра запрасілі на банкет
за столікам ён адзін
махае табе
выходзіць з залы
ты выходзіш следам

на ганку курыць паручнік Пятровіч
прапаршчык Здань сочыць зоры
правая рука на тальмаху

былы мэр віншуе на англійскай
такая не гучала з тваіх вуснаў
нават у самых светлых снах
пасля заняткаў з рэпетытаркамі
снілася зусім іншае
часам сны збываліся
англійская не рабілася ад гэтага лепшай

ты: *half the banquet money me would be enough*
*for a year's happy living*[5]
гучыць не надта ветліва
*according to Somerset Maugham...*
пачынае былы мэр
ты ўжо гатовы адказаць:
Маэм не быў лаўрэатам прэміі *Алека*
сітуацыю ратуе турак
якраз з ім ты размаўляў пра творчасць  Памука
(Памук таксама не быў лаўрэатам прэміі *Алека*
але яшчэ мае шанец)

турак выходзіць на ганак
паказвае былому мэру на таксоўку:
таксісту заплочана!
паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань
уладкоўваюцца на задняй сядушцы

***12***

ты зноў адзін у купэ
адзін у вагоне
магчыма ў цэлым цягніку
плюс два маскоўскія праваднікі

Калян п’е  спіць як мядзведзь
Ваван п’е на варце
*мы о тебе уважаемый наслышаны*
*Гена всё рассказал*

за бортам не пацяплела
мінус 51
на борце плюс 70
час 12.40 паводле сярэднегалактычнага

Ваван: *значит не хочешь объединяться с Россией?*
ты маўчыш
Ваван ківае за вакно
*Ельцин был тряпка*
*Путя ввёл бы войска*
*всё бы здесь процветало*
ты: *как например Донбасс*
Ваван: *ты знаешь что такое*
*русский характер?*
ты маўчыш
Ваван бязгучна варушыць вуснамі
зрэшты усё зразумела

за Бялградам прачынаецца Калян
*будешь бл.дь стрелять в русских?*
ты: *не буду*
Калян: *умница зачем лишние жертвы*
*надо как в Крыму*
ты: *буду бросать гранаты*

у цягніку два вагоны
твой апошні
за дзвярыма тамбура сталёвыя лініі лёсу
выбару ўсё адно няма

на даляглядзе які ўцякае
дзве раўналежныя лініі

сыходзяцца ў адной срэбнай кропцы
там 12.40
на даляглядзе які набліжаецца
дзве раўналежныя лініі
сыходзяцца ў адной срэбнай кропцы
там 12.40
значыць выбар ёсць

цягнік ляціць як Лятучы Галандзец
параўнанне зацяганае
мусіш тэрмінова знайсці лепшае
Балканскі экспрэс рыфмуецца з Усходнім
яшчэ адзін *Усходні экспрэс* на менскім вакзале
рэстаран з купэ
купэ не зачыняюцца
некаторым зусім не замінае
запытайце ў афіцыянтак
напрыклад пра купэ *Менск–Прага*

куды ты ляціш?
адказ мае Калян
*выкинем тебя нах.й*
*скажем пил по-чёрному*
*вышел на ходу подышать свежим воздухом*

12.40
час пульсуе ў скронях
як крынічка на галоўцы немаўляці
*кто тебя будет искать бл.дь кроме волков?*
*получат белоруса на ужин*
ты маўчыш
*шутка дарагой*
з каўказскім акцэнтам кажа Калян
прыязна ўсміхаецца
б’е цябе ў сонечны суплёт

## *13*

час вяртацца да цямы надыходзіць за Будапештам
час звоніць лыжачкай у пустой шклянцы
вядома *Eight Days a Week*
хто глядзіць на цябе з-за вакна
вачыма чародкі казуляў?
ты ведаеш ты нікому не скажаш

у дзвярах Ваван – русский характер
*уважаемый ты не мог бы*
*написать нам благодарность*
*нам за них премию дают*
*а пассажиров них.я нет*
*подумай хорошенько*

ты думаеш да Варшавы
Варшава поўніць вагон
маскоўскімі гінеколагамі
валізамі падобнымі да маладых кітоў
хвалямі тэлефоннага захаплення
*мы думали поляки ненавидят русских*
*они так принимали так принимали*
*фуршет просто фантастика*
*Степановича несём на руках*
паўз цябе праносяць Сцяпанавіча
галава Сцяпанавіча знячэўку падымаецца:
*гинеколог?*
ты: *пісьменнік*
галава: *почему трезвый?*
галава падае

табе сніцца: трэба нараджацца на свет
нараджацца страшэнна не хочацца
відаць гэта маскоўская радзільня
маскоўскія гінеколагі
*главврач* Сцяпанавіч

## *14*

урэшце нараджаешся
разам з табой нараджаюцца
Палессе
мост цераз Ясельду
завея
гадзіннік на якім 12.40
калідор з прыбіральняй
Сцяпанавіч з півам
Сцяпанавіч: *хороша ты русская земля!*
ты маўчыш
Сцяпанавіч: *ты что молчишь сука?*
*ты не согласен? нам Колян всё рассказал*
ты маўчыш
*здесь на твоей недоношенной мове*
*никто уже не говорит*
*не заговорит никогда*
*я знаю что говорю*
*я здесь вырос*
ты маўчыш

12.40
час пульсуе ў скронях
як крынічка на галоўцы немаўляці
Сцяпанавіч: *жалко не сделал твоей мамаше*
*элегантный маленький абортик*
ты маўчыш
Сцяпанавіч на падлозе
Калян: *русских бьют!*

ты адступаеш у купэ
там лёгкі дымок
гэта паручнік Пятровіч
галава ў бінтах з цёмнымі плямамі
хочаш зачыніць дзверы

прапаршчык Здань: не!
мыліцы Пенкі таксама дарэчы

пяты – Алека
шосты – мужчына з Ружовай кавярні
дзе ты мая русалка?
дзе ты сарока Соня?

там
за фіранкай завеі
Мілавіды

[1] Ні дня без радка *(лац.)*.
[2] Бітва беларускіх інсургентаў з расейскімі карнікамі ў паўстанні 1863 г.
[3] Заснавальнік балгарскай дзяржавы на Дунаі.
[4] Ні дня без пляшкі (*лац.*).
[5] Паловы грошай на банкет хапіла б мне на год шчаслівага жыцця *(не зусім правільная англійская)*.

## *СУРА ШЭЙНБЛІТ*

*Валынская балада*

*1*

якасць дарог у Бярдзічаве
*желает быть лучшей*
з габрэйскім акцэнтам
папярэджвала сеціва
якасць ходнікаў у Бярдзічаве
жадае таго самага

ты стаіш на ўзбярэжжы
велічнай вечнай калюжыны
некалі ў калюжыне гуляў у караблікі
тутэйшы малец Тэадор Юзэф Конрад
мальцу бракавала штормаў і хваляў
з'ехаў у Марсэль
паплыў да славы англійскага класіка
Джозэфа Конрада
во як бывае ў Бярдзічаве!

на тым баку калюжыны
сінеюць нечыя ногі
манаха з кляштара Босых кармелітаў
паслалі ў краму *Тэрыторыя Ані*
трэба адзначыць першы дзень зімы

каб крама належала табе
ты пагуляўся б з назваю

*акваторыя* гучыць больш эратычна
*Акваторыя Ані*
лепей Тані
праўда Таня далёка
Аня таксама
ды яшчэ малалетка
з кім яна скруцілася!

***2***

у завулках Бярдзічава
часцей трапляюцца Эвеліны
адна аблічыла ў кавярні на 10 грыўняў
другая нарадзіла Джозэфа Конрада
трэцяя ачмурыла Анарэ дэ Бальзака
можа сам яе ачмурыў
якая розніца калі Анарэ дэ
сцвярджаў што іхнія целы
увайшлі ў такую ж змову
як іхнія душы

сядзеў бы Анарэ дэ
ціхамірна ў Парыжы
рыпеў бы пяром
дык не
папёрся ў Бярдзічаў
знайшоў сярод сінагогаў
касцёл святой Барбары
у сакавіку павянчаўся
у жніўні
ужо расказваў пра сваю Эвелінку
святой Барбары на нябёсах
вось табе й Чалавечая камедыя!

***3***

у Бярдзічаве
анамальная канцэнтрацыя

босых кармелітаў ды абутых Эвелінаў
табе заманецца
вырвацца з гэтага кола
патрапіць урэшце
у *Валынскі Ерусалім*
звесці знаёмства
з кучаравай  габрэечкай
наведаць з ёй сінагогу
потым рэстарацыю *Алімп*
потым гатэль з назваю *Мірабэлла*
з назваю што хочацца спяваць
*Мір-ра-Бэл-ла*

у гатэлі *Мірабэлла*
можна сказаць габрэечцы
давайце ўступім з вамі
у выпадковую сувязь
раптам высветліцца:
ваша выпадковая сувязь
зусім невыпадковая
вы станеце маёй Мірай
лепей Бэллай
мы палётаем па-над Бярдзічавам
па-над Віцебскам
Адэсай
Парыжам
Ерусалімам
хто-небудзь з *Хамазу* скажа
жыды ды яшчэ й лётаюць
збіць іх на х.й!

***4***

будзеш шукаць сваю Бэллу
на рынку
дзе купіш кашэрнага сала

у рыбнай краме
дзе купіш  мукузані
у кавярні *Амстэрдам*
дзе водзяцца гіганцкія карпы
у салоне *Мішэль*
дзе згадаецца
заўсёдніца тваіх юначых сноў Шэля
Шэлі табе будзе не ставаць
у камяніцы з драўлянымі сходамі
на вуліцы імя таварыша Лібкнехта

на шырозным  падваконні
паміж першым і другім паверхамі
хтосьці напісаў
*не был ли ты в детстве евреем?*
вы з Шэляй
маглі б заключыць на падваконні
саюзную дамову вашых целаў
без анексій і кантрыбуцый

будзеш шукаць яе
Бэллу ці Шэлю
у кляштары Босых кармелітаў
тамтэйшы прыбрамнік
дагэтуль не бачыў зданяў
у руках у прыбрамніка вясло ключоў
а клічуць яго
не паверыце
Пятром!

***5***

хто сказаў
што ў Бярдзічаве
усяго дзве сотні
спажыўцоў мацы?
на габрэйскіх могілках

пад элегантнымі сухімі парасонамі
баршчэўніку
сыходзіць за далягляд
*Валынскі Ерусалім*

дамы пад ручку з кавалерамі
каменныя валёнкі помнікаў
тысяча за тысячай
мыскі ўгору
каб не збіцца з курсу
на падэшвах надпісы
іўрыт
ідыш
зрэдку расейская
*пусть душа твоя*
*завяжется в узелок жизни*

ты хацеў бы заняцца тут з Бэллай
любоўю
ты адчуваеш
навакольныя габрэі
былі б за вас

ты пакінеш свае каардынаты
на арэхавым дрэве
твая Бэлла
адразу адгукнецца!

***6***

тваю Бэллу будуць зваць Сура
Сура Шэйнбліт
народжаная Малканзон
стала каменным валёнкам
на пачатку мінулага стагоддзя
Сура Шэйнбліт
не пабачыла самага цікавага

Першай сусветнай
пагромаў
рэвалюцый
чырвоных і белых
дэманстрацый і «варанкоў»

Сура Шэйнбліт
народжаная Малканзон
не стала Шурай
не ўступіла ў камсамол
не зрабілася следчай
або падследнай НКВД
не была расстраляная
падхорцістымі хлопцамі
з зорачкамі
або падхорцістымі хлопцамі
са свастыкамі
*почувствуйте разницу!*

Сура Шэйнбліт
народжаная Малканзон
калі яе валёнак не хлусіць
засталася
*незабвенной женой и матерью*
не вырвалася з гета
не з’ехала на зямлю запаветную
не напісала табе
*я очень интересуюсь знать*
*как твоё драгоценное здоровье*
не прыслала запрашэння
не спякла госцю тэйгэлэх
не аддалася як Суламіт
не запыталася
чаму ты любіш
кучаравых габрэечак
*не был ли ты в детстве евреем?*

***7***

унучка Суры Шэйнбліт
дачакаецца цябе ля брамы
папрасіць *немножко денег*
заўтра ёй восемдзесят тры
*можно приходить с подарками*
трэці ад могілак дом пад яблыняй

не давайце грошай месье
прашэпча Анарэ дэ
ёй на дваццаць гадоў меней
мо яна яшчэ бальзакаўскага веку?
адкажаш ты жмінду-французу

дасі ўнучцы Суры Шэйнбліт
20 грыўняў
чыё гэта ўвасабленне
на бясконцых кладах
на працягу Бярдзічава
большым за сам Бярдзічаў?
хіба незразумела?
хіхікне Анарэ дэ
прыжыўся зараза ў Бярдзічаве!

Анарэ дэ не ведае:
у нашых палястынах
Смерць ніколі не просіць
просіць – Любоў
сустрэч
узаемнасці
пяшчоты
жарсці
вернасці
лістоў
званкоў

эсэмэсак
радасці
болю
*немножко денег*
просіць – Любоў!

***8***

Сура Шэйнбліт
прынясе да цягніка
рыбу *фіш*
пяць гарачых бульбін з кропам
бутэлечку вішнёвай наліўкі
Сура Шэйнбліт
пакіне табе адрас і тэлефон
у яе ёсць *Viber* і *WatsApp*
у яе ёсць дыббук і ноўтбук
у яе да серады бяспечныя дні
ты любіш рызыкаваць гой?

цябе пабудзіць украінскі мытнік
бульба даўно халодная
на дне бутэлечкі
абнялася парачка восаў
твой дыббук таксама спіць
мармыча скрозь сон
*не был ли ты в детстве евреем?*

няўжо твая гісторыя з Бярдзічавам
як і ўсе гісторыі на свеце
пачалася і скончылася
немаведама навошта?

*2009*

## *ВУЛІЦА САЛАМЕІ*

*Галіцыйская балада*

***1***

на 305-й прыступцы
ратушнай вежы
таваё сэрца
пачынае любіць Львоў
радасным болем
сэрца хацела
пералічыць усе прыступкі

ты падымаўся на ліфце
на Старамесцкую ратушу ў Празе
на сабор Святога Пятра ў Рызе
на Сусветны гандлёвы цэнтр у Нью-Ёрку
апошні прыклад небездакорны

цяпер ты падняўся б на правую вежу
толькі пешкі
прынамсі на 65-ты паверх
там было выдавецтва
восем супрацоўнікаў
тваe *Дзесяць вякоў беларускай гісторыі*
выйшлі па-англійску
ужо ў іншым свеце

дваццаць гадоў таму
ты стаяў на даху правай вежы

Манхэтэн прымяраў
сіні пінжак вечара
унізе лёталі нью-ёркскія арлы
турыстычныя гелікоптары
душы самагубцаў

целы самагубцаў ужо не лёталі
новы жалезны нерат
не пратараніў бы
нават гіганцкі птэрадактыль
пра самалёты ніхто не думаў

ты з’еў на 100-м паверсе *chicken*
выпіў пінту каліфарнійскага
нехта пускаў з блізкага вакна
папяровыя самалёцікі
свет навокал быў надзейны
як гэтыя вежы
як срэбны даляр поўні
як курс *$US*

унізе скача курс грыўні
галубы даследуюць рэнесанс
Венецыянскай камяніцы
леў святога Марка
марыць пра цёплы душ
ты робіш з квітка самалёцік
пішаш на ім нечае імя
дорыш самалёцік ветру

11 верасня 2001 года
людзі скакалі з вокнаў
здалёк здаваліся самалёцікамі
самалёцікі ўваходзілі ў піке
магчыма і Кэтрын з 65-га паверха
ты памятаеш яе голас

голас быў фігурысты і лёгкі
як восеньскі кляновы ліст
чаму быў калі ён кружляе ў табе?

аднойчы Кэтрын спытала
чаму твая левая мочка
удвая большая за правую сястру?
*памяць пра татавы гены*
з гонарам адказаў ты
колькі хвілін Кэтрын ляцела?

твой аэраплан
кіруецца ў Італьянскі дворык
ты заплюшчваеш вочы
вочы вільготныя
вядома ад ветру
праз хвіліну падымаеш павекі
плошча Рынак не знікае
італьянскі акцэнт плошчы таксама
няўжо вунь у той кавярні
ты еў не пасту а варэнікі з вішнямі?

***2***

у львоўскіх дварах
карціць кагосьці зарэзаць
але не Сяргія Жадана
сярод арабесак цвілі
цвіце Сяргіева страфа
*я бачив твої падолисти*
*ту ніч що тебе огорне*
*там де високі під'їзди*
*мов застуджені горла*

у львоўскіх кавярнях
прагнецца кагосьці атруціць
але не Марыяну Кіяноўску

ты згодны з ёю
*ми забуваємо досвіды наші дитячі*
*й діти біжать у майбутнє*
*мов босі на скло*

на львоўскіх прыпынках
рупіць кагосьці піхнуць пад колы
але няхай жыве і пасецца
нязнаны аўтар радаснага адкрыцця
*завжди блищить Великий Віз*
*який не вимагає за проїзд*

зараз уначы
на Вялікім Возе
вы ўсе разам
паэты і чытачы
нябесныя і пякельныя сотні
кібаргі з Данецкага аэрапорта
раскосыя салдацікі з Бураціі
палеглыя за *русский мир*
непадкупныя прэзідэнты
шчодрыя алігархі
у міжнародным вышуку
байцы УПА
правы і левы сектары
белы сабачка з перабітаю лапай
ты з Залацістай Эфай
Залацістая Эфа трымае цябе
за левую мочку
кажа: дапамагае ад сурокаў і падвею

***3***

ты саскокваеш з Вялікага Воза
у кавярню *Кабінет*
пасля поўначы
*Кабінет* хутка запаўняецца

заходзіць пісьменнік Юрый Віннічук
пад пахай раман
*Вясновыя гульні ў асенніх садах*
замаўляе *шампан*
бясконца тэлефануе
раз-пораз чуваць пругкае слова *прутень*

ці ведаў што такое *прутень*
кампазітар Франц Ксавер Моцарт?
сын таго самага бацькі
пражыў у Львове палову жыцця
раскашаваў не з адной *розкішницею*
у Франца Ксавера старэнькая *Nokia*
кампазітар нікому не тэлефануе

на канапцы пад люстэркам
самотніцца скульптар Ёган Георг Пінзель
дастае партманетку
дзівіцца на грыўні

пры століку з друкавальнай машынкай
Леапольд Захер-Мазох
такі самы як помнік на вуліцы Сербскай
адно на штрыфлі ордэн Ганаровага Легіёна
табе хочацца падсесці:
пане Мазох вы заўважалі?
чытачы падзяляюцца
на садыстаў і мазахістаў
садысты чытаюць вас
Леапольд Леапольдавіч
мазахісты – маркіза дэ Сада

з лёгкім ветрыкам
левітуе між столікамі Залацістая Эфа
Віннічук душыцца шампанам
Леапольд Леапольдавіч

ліхаманкава малоціць па машынцы
Моцарт пакутуе:
чаму ён не Вольфганг Амадэй?
Георг Пінзель асвятляе твар
усмешкаю позняга барока

пад пашкай у Залацістай Эфы кніга
у гэтай кнізе Эфа жыве
танчыць з табой на даху
плавае ў паднябесных азёрах
кажа: будзем імклівымі
белыя чаплі выцінаюць вам крыламі
*Let It Be*

у люстры над Пінзелем
Марына Мнішак
уся ў белым
толькі што з вянчання
у касцёле святога Андрэя

каралева Францыі
Марыя Караліна Сафія Феліцыя
(пруцень прачынаецца ўжо ад імя)
уся ў чорным:
жалоба па тату
адстаўны вялікі князь і кароль
Станіслаў Ляшчынскі
засумаваў у Францыі па родным Львове
выжлукціў пляшку арманьяку
даў нырца ў вогненны камін
праз хвілю з'явіцца ў *Кабінеце*
з французскім дымком

*4*

вялікі князь і кароль Ян Сабескі
упершыню наклаў у штонікі ў Алескім замку
сікаў з гэтых стромаў
як некалі вы ў Палату: хто далей?
цяпер скача па сцяне ў *Бітве пад Венай*
за ім лятуць крылатыя гусары
з-пад Полацка Горадні Слуцка
удалечы на палатне Вена
сабор святога Стэфана

летась у нязгасным суме
па полацкім Святым Стэфане
ты пераведаў венскага
услед усунуўся
узвод расейскіх турыстаў
ніводны не зняў шапкі:
*ведь мы христиане а они католики*

Алескі замак памятае
*Дзікае паляванне караля Стаха*
перад вамі алькоў
тут начаваў галоўны рэжысёр
каб не баяўся побач была
выканаўца галоўнай жаночай ролі

вы з Эфай таксама б не разгубіліся
уранні кава
венскі штрудэль
о гэтая незабыўная нотка цынамону!
магчыма келіх аўстрыйскага
*Аўслезе* або *Мускат-Сільванер*
можна ў ложак
пагатоў вакол усе свае
геніяльнае трансільванскае вуха

Стэфана Баторыя
Барбара Радзівіл
мармур і пазалота
грудзі трэцяга памеру
бяссонныя вусы Пане Каханку
для еўрапейскага кантэксту –
Марыя Антуанета
пакуль з галавой
афіцыянт! усім каву па-венску!

*Vivat* Сабескі!
нашы ўзялі ў палон
тысячу мяхоў кавы
туркі прайгралі
кава перамагла

***5***

кавярня *Свiт кави*
Кенія ці Ямайка?
з кім параіцца?
Залацістая Эфа яшчэ не нарадзілася
замаўляеш Мексіку
ёсць звесткі: у былым жыцці
ты быў мексіканскай танцоркаю

у паслужным спісе Джакома Казановы
мексіканак здаецца не было
калега піў каву сярод тутэйшых ільвоў
запісваў у дзённіку
*Львоў прыўкрасны горад*
*львоўскія паненкі недаступныя*

насупроць *Світу кави*
капліца Боімаў
экскурсаводка: нідзе ў свеце

капліца не мае аналагаў ці паўтораў
ты: кожны з нас таксама
не мае аналагаў ці паўтораў
(тата мала цябе выхоўваў
пракурорскай папругай)
экскурсаводка (ветліва):
*ви не з нашої групи*
*та порівняння ваше некоректно*
*але дякуй що говорите по-білоруськи*

да цябе падыходзіць дзяўчына
даўганогая
кароткая русявая фрызура
вішнёвыя вочы
*ви з Білорусі?*
тваё пытанне такое ж ідыёцкае
*а вы з Украіны?*
*зі Львова*
*а білоруська мова така гарна*
яна трошкі расцягвае словы
*мой тата був білорус*
*білоруською мовою ніколи не говорив*
табе пашанцавала болей
твой тата загаварыў з табой на мове
калі ляжаў на Божай пасцелі

ці не падкажа пані
дзе сабор святога Юра?
пані пакажа

па дарозе безыменная кавярня
тры столікі
*Martini extra dry*
на пляшцы дата 1863
звычайна пры марціні
ты спрабуеш знайсці адказ:
твае прадзеды стралялі ў маскалёў

або здавалі інсургентаў карнікам?
пяць рублёў за жывога
тры за мёртвага

цяпер ты думаеш:
русявая фрызура
вішнёвыя вочы
ці бываюць такія спалучэнні?
хіжынкі ў ражках поўных вуснаў
нос гераіні *Нясцерпнай лёгкасці быцця*
Мілана Кундэры
успомнілі? нос замінаў цалавацца

о святы Юр!
хіба можа ў святога
быць такое імя?

***6***

падзеі развіваюцца імкліва
вуліца Саламеі Крушальніцкай
які вецер панёс Саламею ў жніўні 1939-га
з італьянскай вілы ў Львоў?
чыю галаву хацела атрымаць на сподзе?
ад якога Ірада?

зялёная аўстрыйская камяніца
парадныя дзверы адчыненыя
на гарышчы вяроўкі з бялізнай
вазоны з фіялкамі
нос замінае цалавацца
ты цалуеш персікавую патыліцу
целам не патрэбныя словы
мамачка мая Марыя...

гэта фіяска
ты шкадаваў гаротніка Казанову

цяпер цябе шкадуе
увесь прыўкрасны Львоў
беларуская мова такая гарная
беларускі мужчына такі недалуга

табе хочацца выйсці ў вакно
выйсці разам з фіялкай у вазоне
нехта ўмыкае ў галаве жахалку
*хлопчык бадзёра па даху пабег*
*весела скончыўся гэты забег*
*хлопчык зрабіў адмысловае сальта*
далей вы памятаеце
рыфма з асфальтам
жахалка нечакана дапамагае

на гарышчы з’яўляецца бабуля
зялёны тазік пад бялізну
ветліва вітаецца
была сувязной УПА
сустракалася тут з нарачоным
кожнае спатканне лічылі апошнім
нарачоны не меў права на фіяска

унізе ты ловіш таксоўку
Стрыйскі парк цалуецца з восенню
вы таксама цалуецеся
нос па-ранейшаму замінае
ты нарэшце ператвараешся ў фаўна
мамачка мая Марыя!

дошкі летняй сцэны
кілім з кляновага лісця
часам кілім збіваецца
калені ўжо смыляць
Леапольд Леапольдавіч з маркізам
цалкам задаволеныя

які назоў у вашай трохактоўкі?
дзе тэатральная праграмка?
як завуць дзейных асобаў?
хаця б выканаўцаў галоўных роляў?
ты: гэта неарыгінальна
ёсць такі фільм Берталучы
яна: *Апошняе танга ў Парыжы*
што зменяць імёны?
калі ты так хочаш
я буду *розкіш*[1]
ты – *прутень*
цяпер можна з вялікай літары

ну-ну гладзіць яна цябе
па няголенай шчацэ
якія мы далікатныя...
смяецца дзіўным смехам:
чаму твая левая мочка
удвая большая за правую?
*памяць пра татавы гены*
у глыбінях яе смеху
пераліваецца марціні 1863

ты ловіш таксоўку
*Розкіш* жыве ў тым самым доме
на вуліцы Крушальніцкай
ты дзівам паспяваеш на цягнік
калені нясцерпна смыляць
партугальскі партвейн
цёмны як загуслая на ране кроў

усю ноч розныя кропкі
адчуваюць ейны нос
пад раніцу зноў узнікае Мілан Кундэра
*гісторыя безаблічная і няўцямная*
гісторыя вандруе ў захмар'і
забаўляецца непрадказальнымі сюжэтамі

нястомна хлусіць зневажае здзекуецца
часам жартуе
заходзіцца ад рогату
гэта і пра тваю асабістую гісторыю

прыедзеш праз дваццаць гадоў
знойдзеш дом на Крушальніцкай
пачуеш далёкі смех
з пералівамі марціні
на дзвярах кодавы замок
так і павінна быць

***7***

на фрэсцы ў Армянскім саборы
пахавальная працэсія
армяне хаваюць мітрапаліта
мастак намаляваў сяброў і знаёмых
адзін мужчына з труной на плячы
азіраецца на Залацістую Эфу
гэта сам мастак

на Лычакаўскіх могілках
ты знаходзіш армянскія магілы
запальваеш свечкі
кранаешся граніту і мармуру
помнікі адказваюць тваім пальцам
цёплымі дотыкамі
магчыма ў былым жыцці
ты быў зусім не мексіканкай

Самуіл Кіпрыян Старымовіч
1755–1858
ці хочаш ты пражыць 103 гады?
нават армянскім мітрапалітам
чым у 103 гады можна займацца?
напрыклад з жанчынамі

тваю знаёмую Саламею
вартуе нацыянальна свядомы Арфей
у руцэ жоўта-блакітны сцяжок
стральцы Галіцкай арміі
замірыліся з польскімі жаўнерамі
крот накапаў у гонар міру свежыя грудк*i*
байцы *АТО*
ні з кім не замірыліся
якая бл.дзь *АТО* калі вайна
крот не можа без цемры
Расея не можа без вайны

маладая ўдава выцірае маломму смаркачы:
Тарасік адпомсціць за тату
ты бачыў тату ў Дамініканскім саборы
у саборы цэлы іканастас з фотак
ці ёсць такія іканастасы ў расейскіх цэрквах?

***8***

Драгобыч
гэта цынамонавыя крамы
вуліца Кракадзілаў
санаторыя пад клепсідрай
мужчыны ў чорных цыліндрах
жанчыны з хвосткімі бізунамі
Залацістая Эфа ля рыны
на даху сінагогі

Драгобыч
гэта неба Бруна Шульца
скляпеністае
поўнае анфіладаў
трыфорыяў
вокнаў у вечнасць
зданяў

лахманоў аповесцяў
трэба толькі паставіць сіло

тут Бруна Шульц
астатні раз бачыў сваё неба
неба якое ўсё ведала і прадчувала
неба якое на даляглядзе
пусціла карані ў сутнасць рэчаў

шарфюрар Карл Гюнтэр
з дзяцінства любіў габрэяў
асабліва мёртвых
мёртвыя габрэі
не вучацца лепей за вас у школе
не паступаюць ва ўніверсітэты
не выйгра*ю*ць у вас у шахматы
не пішуць дэгенерацкіх кніжак
не валяюцца ў нагах у сваіх жыдовак
на дэгенерацкіх малюнках
мёртвыя габрэі
не размалёўваюць фрэскамі
вілы вашых начальнікаў
свет дзе ўсе габрэі мёртвыя
набудзе гармонію і дасканаласць
няхай жывуць мёртвыя габрэі!

ты бачыш Карла Гюнтэра на схіле дзён
Карл Гюнтэр падразае ружы
гуляе ў бадмінтон з унучкай
п'е каву ў альтанцы пад анёлам

Карл Гюнтэр удзячны драгобыцкаму мазілку
той стрэл захавае імя *Карл Гюнтэр* у вечнасці
яму прывозілі турыстычныя даведнікі:
19 лістапада 1942 года
шарфюрар СС Карл Гюнтэр

застрэліў Бруна Шульца
на вуліцы драгобыцкага гета
апрача даведнікаў спасылкі ў інтэрнэце

цяпер Карл Гюнтэр ведае дату
раней памятаў адно: быў чацвер
юдэ казалі *чорны чацвер*
шкада не чорная субота

Карл Гюнтэр дазваляе сабе глыток каньяку
ён заўсёды страляў юдэ ў галаву
для пэўнасці два разы
даведнікі пішуць:
у астатнюю хвіліну
мазілка карміў галубоў
якая чуллівая дэталь!

Бруна Шульц
прысніўся табе ўсяго аднойчы
у сне ты прачнуўся
пайшоў на кухню папіць баржомі
зірнуў направа ў кабінет
пры тваім кампутары
сядзеў Бруна Шульц
злева на стале
чарнеў яго цыліндр

ты прачнуўся
ціха прычыніў кабінет
папіў баржомі
лёг
разгарнуў *Цынамонавыя крамы*
*пахла фіялкамі*
*вандроўнікі збіралі ў імху*
*мокрыя ад снегу зоркі*

ты шчасліва заснуў:
на тваім кампутары
працаваў Бруна Шульц

***9***

кавярня *Під клепсидрою*
пачынаецца з газеты-меню
перадавіца пра гісторыю роднага *краю:*
*Онофрей був вченою людиною*
*служив ще в австрійскому війску*
па вайне вучоную людыну з радзінаю
запраторылі ў Сібір
выграблі з дамоўкі дзве фуры кніг
вызвалялі месца ваенруку Сазонаву
згарэў п’яны ў хаце

застаецца замовіць каву *Вогник*
30 грыўняў
летась была восем
тваё пакутлівае здумленне
скончаецца віном *Тарапака*
480 грыўняў
летась было сто
у букеце пампасы Араўканіі
філамат і філарэт Дамейка
*Дом духаў* Ісабель Альендэ

*Тарапаку* ты піў з Аксанай Забужкай
вы гулялі па палях і лугах
вострава Готланд  Швецыя
займаліся тэорыяй і практыкай літаратуры
уначы ты штудыяваў
*Палявыя даследаванні ўкраінскага сексу*

*Під клепсидрою* джаз
за кутнім столікам самотны жаўнер

джазавы рытм адстуквае
самотная нага
думаеш пра палявыя даследаванні
жаўнера з адной нагой

у партманетцы яшчэ 480 грыўняў
у *Тарапацы* ўсё больш джазу
у джазе ўсё больш *Тарапакі*
у сінкопах прысмак
чалавечых ахвярапрынашэнняў
нешта джазавае і ў тваёй страве
кіш са шпінатам

на сцэну выходзяць
ільвы Алены Кіш
у львоў сумныя чалавечыя вочы
з араўканскай смугі
выплывае човен
у чоўне ты з Залацістай Эфай
другі човен з аднаногім жаўнерам
трэці човен пусты
у трэцім чоўне слухала джаз
Алена Кіш

***10***

вуліца Сцяпана Бандэры 1
былая турма НКВД
Аксана Забужка чытае ў турме прозу
*Непраяўленыя стужкі Мішэля Настрадамуса*
усё шэльма француз бачыў наперад
канец барбарскай імперыі
мусульманская кроў у Срэбраніцы
барысфенцы супроць усходняга закону

ты чытаеш вершы
*Калі паміраюць паэты*
*Два сінія цені*
чытачоў нашмат болей
чым ты налічыў спачатку
падыходзяць новыя
бязважка сядаюць на падваконні
ціснуцца ля сцен
не адкідаюць ценяў
чые тут маленькія бурыя сляды?
такія самыя бурыя плямы
на сценах у турэмным двары
*анёлы!*
*дайце мне*
*яе запясці*

у віленскай турме
расстрэльвалі ў сутарэннях
на падлозе равочкі для крыві
ты бачыў такія равочкі ў Нямеччыне

твой праваднік унук закатаванага
аднойчы сыходзіў апошні
зачыніў на ключ усе камеры
здаў музей на сігналізацыю
уранні турма пад сігналізацыяй
усе камеры наросцеж

***11***

твой гатэль па-ўкраінску завецца
*Reikartz Медіваль*
Багуміл Грабал сказаў бы
прывітанне ад бабулі Аўстрыі

у сваю астатнюю хвілю
Грабал як і Шульц карміў галубоў

сядзеў на шпітальным вакне
папрасіў галубку дапамагчы
пісьменнікі таксама лётаюць

ты хацеў бы паплысці
*там на беразе іншага часу*
*апануюць мяне ўспаміны*
*празрыстасць імклівае плыні згадаю*
*быў рыбай калісьці?*

***12***

усе кавярні навокал поўныя
нібыта ў Парыжы
перад Другой сусветнай

ты шукаеш на небе Вялікі Воз
Залацістая Эфа кажа
гэта надае раўнавагі

з рэстарацыі *Тлустий Гусак*
выходзяць дзяўчына і два парубкі
дзяўчына кіруецца да цябе:
*Слава Україні!*

ты марудзіш з адказам
ты ніколі не любіў лозунгаў
у піянерах: заўжды гатовы!
ты быў гатовы да іншага
на дэманстрацыях: няхай жыве!
ужо не жыве
потым: *Жыве Беларусь!*
жыве і жуе

*Тарасику він не розуміє*
дзяўчына трошкі расцягвае словы
няўжо смаркаты Тарасік

з Лычакаўскіх могілак
так хутка пасталеў?
*Тарасику!*
дзяўчына даўганогая
кароткая русявая фрызура
колер вачэй растае ў прыцемках

Тарасік падскоквае на месцы
*хто не скаче той москаль!*
Тарасік дастае рукі з кішэняў
ты дастаеш рукі з кішэняў:
*хто не скача – беларус!*

сітуацыя імгненна мяняецца
Тарасік дастае з кішэні пляшку
сухі крымскі херас
Масандра 2013
яшчэ наш
ты думаў ужо забыў яго смак

вы па чарзе цягнеце з рыльца
ты: *Vivat Галіцыя!*
узнікае другая пляшка херасу
абдымкі і пацалункі
дзяўчыне замінае цалавацца нос
нос як у гераіні Мілана Кундэры
адна мочка ў дзяўчыны
удвая большая за другую

табе робіцца нясцерпна лёгка
тры глыткі херасу для смеласці
зараз ты запытаеш
ці не жыве яе мама
на вуліцы Саламеі Крушальніцкай

*2017*

[1] Тое самае, што і *розкішниця*.

## *АПОШНЯЯ ЖАНЧЫНА КАЗАНОВЫ*

*Багемская балада*

*Святлане і Алесю*

### *1*

потым ён пазіраў у столь
Даротка ціха плакала
глядзела на кармінавую плямку
памерам з вішню
кратала плямку пальчыкам
павольна апраналася

потым ён сказаў
*запомні дзіця маё*
*быць жанчынаю значыць умець*
*уцякаць так каб цябе злавілі*
Даротка зноў заплакала
каб высушыць яе слёзы ён працягваў
*узаемнасць гэта калі любіш сябе*
ён наліў сабе і Даротцы
па келіху франкоўкі
абрыдлай тутэйшай франкоўкі
*патрэба кахаць дзіця маё*
*таксама як патрэба быць каханым*
*праява чалавечага эгаізму*

потым яшчэ адчуваючы
козыт яе залатога руна
халаднаваты згустак яе цела

свежага як адпрасаваная кашуля
ён думаў:
Даротка
дачка замкавага прыбрамніка
апетытная чарнявая козачка
дваццаць адзін год
такіх выпраўляюць у плаванне
гадоў у дванаццаць
хто б мог уявіць...

***2***

потым ён адчыніў вакно
падаў дакучлівы багемскі дождж
мокрая лістота панядзелка
пахла значна лепей за рэчыва
якім у пятніцу намалявалі яго партрэт
партрэт прыляпілі тым самым рэчывам
да сцяны гарадской прыбіральні
гаўняны мастак
меў несумнеўныя здольнасці

потым сэрца сціснулася  мацней
у суботу забілі яго адзінага сябра
падкінулі пад дзверы
фокстэр'ер быў яшчэ цёплы

учора з нагоды нядзелі
фаварыт замкавага аканома
збіў яго
Джакома Казанову
сукаватым друкам на плошчы
яго
Джакома Казанову
арыстакрата
доктара навук
знаёмага імператараў

каралёў
кардыналаў
інтымнага сябра дзвюх
герцагіняў

сустрэчы з ім
Джакома Казановам
згадвалі Вальтэр і Гётэ
у Парыжы ён Джакома Казанова
добра прыклаўся да пляшкі
з Бенджамінам Франклінам
Шылер прыязджаў у гэтую глухмень
пагрэцца ля вогнішча інтэлекту
Джакома Казановы
Моцарт даслаў яму запрашэнне
на свайго *Дон Жуана*
ніякіх аналогій!
севілец цынічна самасцвярджаўся
ён
Джакома Казанова
дарыў жанчынам асалоду

фаварыт аканома
самазакаханы плебей
біў яго друкам па геніяльнай галаве
Даротка – цудоўны рэванш
калі табе шэсцьдзясят шэсць

### *3*

потым быў судовы працэс
Даротка абвясціла:
яе пазбавіў нявіннасці
не Джакома Казанова
бібліятэкар графа Вальдштайна
як цвердзяць недасведчаныя асобы

ёю падступна авалодаў малады мастак
два тыдні таму ўцёк нягоднік у Італію

фаварыт аканома вылаяўся
Джакома Казанова падумаў:
ён не згадае дачку прыбрамніка ў мемуарах
у мемуарах ён піша пра ўсіх сваіх жанчын
згадвае кожную на імя на вусны на лоні
на галасы водары пахі
кожная цудоўна пахла
чым больш пацела
тым саладзейшым гэты пах рабіўся

***4***

потым ён вярнуўся
да свайго манускрыпту
сем гадоў круціў катрынку ўспамінаў
атрымалася 3700 старонак
траціна пра любоўныя гульні

47 італьянак
ён быў патрыётам
19 францужанак
кажуць у іх ёсць нешта асаблівае
ён не заўважыў
10 швейцарак
францужанкі адпачываюць
24 служанкі
ён быў дэмакратам
18 дам высакароднага паходжання
яго тата-арыстакрат быў бы задаволены
сем актарак
з кожнай ён удзячна згадваў маму-акторку
тры манашкі
ён таксама паспеў пабыць манахам

адна рабыня
дала б фору тром графіням
адна ўласная пляменніца
ён шчодралюбны дзядзечка
спіс няпоўны
наконт мужчын адно намёкі

***5***

потым ён памёр
памёр у сваім фатэлі
ложак быў толькі крыху даўжэйшы
у тыя часы спалі амаль седзячы
хацелі напалохаць смерць
маўляў я не сплю
нічога ў цябе спадарыня не атрымаецца
быццам смерць не ведае такіх хітрыкаў

***6***

потым Даротка выйшла замуж
праславілася ў сяброваk мудрасцю
умела да месца сказаць сентэнцыю
ад графскага бібліятэкара
*не варта распранацца там*
*дзе распранацца нянарта*
або
*калі ваш муж рагаты*
*гэта не значыць што ён д’ябал*
або
*кахаць не губляючы розум*
*не здатныя нават багі*

калі ў Даротці пыталіся
дзе мастак што ўцёк у Італію
на вуснах Даротці
доўга не гасла цёплая ўсмешка

***7***

потым я пытаўся
колькі жанчын было ў Казановы
10 000 не вагаўся адзін сябар
365 падлічыў другі
900 прымружыла вочы адна знаёмая
20 засмяялася другая

другая апынулася найбліжэй да праўды
дадай 112 сказаў я
а таксама Даротку

***8***

потым я прыехаў у Прагу
пазнаёміўся з калегам
на вясёлае прозвішча Вайль
калега меў срэбную бараду
у барадзе ззялі залатыя кроплі піва
калега сказаў
*старасць гэта калі ты яшчэ любіш жыццё*
*а жыццё цябе ўжо не любіць*
у калегі з жыццём была поўная ўзаемнасць

калега падараваў сваю кнігу
у кнізе я прачытаў пра Джакома Казанову
*ён прафесіянал які любіць*
*працоўны працэс*
*сваё працоўнае месца*
*свой інструмент*
калега напісаў:
*Гісторыя майго жыцця*
Джакома Казановы
па сутнасці вытворчы раман

потым я зноў прыехаў у Прагу
хацеў паспрачацца з калегам
калега быў ужо ў коме
жыццё любіла калегу як магло
яшчэ цэлы год

потым я прыехаў на могілкі Сан-Мікеле
Венецыя
знайшоў магілу калегі
могілкі не месца для спрэчак
я проста падумаў:
не вытворчы раман а паэма

***9***

потым я прыехаў у замак Вальдштайнаў
цяпер гэта Духцаў Чэхія
там усё па-ранейшаму
няма толькі партрэта ў прыбіральні
шкада бо пах даўно выветраў
у замку павесілі празрыстую паштовую скрынку
*НАПІШЫЦЕ КАЗАНОВУ ЁН ВАМ АДКАЖА*
скрынка поўная лістоў
жаночыя імёны
дакладныя адрасы
усё спрэс па-расейску

потым я знайшоў пансіён *Казанова*
замовіў келіх франкоўкі
нейкі пструг на рожне з брамборамі
напісаў у нататніку
*потым ён пазіраў у столь*

потым я прачытаў імя чарнявай афіцыянткі
Даротка

потым я пазіраў у столь

## ***ГВІРАБІ***

*Грузінская балада*

ვოლი დანი თემო

***1***

царыцу звалі Тамара
Руставелі напісаў за Тамарай
*Рыцара ў тыгровай шкуры*
Грузія прысвяціла Руставелі
купюру 100 лары
царыцы Тамары Грузія прысвяціла
купюру 50 лары
паэты цэняцца даражэй за царыц
магчыма і за цароў
цары маюць іншую думку

царыца Тамара не пакрыўдзілася
будавала храмы фартэцы масты
самы славуты мост Махунцэці
рака Аджарысцкалі паблізу Батумі
даўжыня моста 29 метраў
вышыня шэсць
шырыня два з паловай
уся праблема ў шырыні
не дошка над безданню
але ніякіх парэнчаў

***2***

нарвежца звалі Кнут
звычайнае нарвежскае імя
вее салёным ветрам

хваёвай смалой
прозаю Кнута Гамсуна

Кнут марыў прыехаць у Грузію
здзяйсненне募раў
заўсёды дыхае небяспекай
Кнут здымаў даліну Аджарысцкалі
рака пасля залеваў
колеру мандарынаў на горных схілах
вірлівая каламуць
вочы шалёнага звера

Кнут забыў пра парэнчы
не меў трэцяга вока
на мосце Махунцэці
застаўся заплечнік
колеры нарвежскага сцяга
пад скалой чырвоная машына
грузінскіх ратавальнікаў

тваіх спадарожнікаў завуць Ольга і Заур
аджарскі паэт Заур
кропля ў кроплю
сябар твайго дзяцінства
Вова Цымерман
грузінская паэтка Ольга
залацістая бландзінка
зялёныя вочы
была б сваёй у полацкім Задзвінні
у Батумі ты спытаў Ольгу
можна я стану
тваім серабрыстым грузінам?
грузіны ўжо былі
*а нос у тебя похож на хинкали*

кіроўцу чырвонай машыны завуць Тэма
твар інтэлектуала
постаць не для сустрэч у цёмным завулку
Тэма дыміць электроннай люлькай
Тэма цмок з вокладкі
тваёй кніжкі кітайскіх казак
ты баяўся цмока
прыціскаў кніжку падручнікамі
цмок усё адно вылазіў у твае сны
якія шанцы Тэма?
Тэма ахутваецца дымам
зараз выкліча дванаццаць
прыдворных мандарынаў

пад скалой відаць заплечнік
у заплечніку чакаюць Кнута
дакументы
вясло чурчхелы авечы сыр
арэхі *дамскія пальчыкі* віно
Тэма запомніў: чырвонае віно *Гвірабі*
каб не забыцца ты складаеш вершык
*Гвірабі п’е самотны рабін*

*прыгожая мова* амаль без акцэнту
выдае цмок Тэма
ты хочаш купіць *Гвірабі*?
калі ты знойдзеш *Гвірабі*
выпі за яго
Тэма ківае на мандарынавую раку
што такое *Гвірабі*?
цмок Тэма круціць агністымі вачыма
тунэль! *Гвірабі* старажытны тунэль

*3*

увечары ты раскладаеш вогнішча
Тэма дыміць мацней за вогнішча
Беларусь краіна цмокаў
Грузія краіна цмока Тэмы
добры цмок Тэма прыносіць
хатняга віна
паэтка Ольга дастае ўлюбёны сулугуні

Тэма доўга глядзіць на агонь
Тэма: у Індыі ёсць горад Варанасі
кожны індус марыць
пасля смерці згарэць у Варанасі
на беразе святарнага Ганга
паэтка Ольга ведае пра Варанасі:
ніякіх рэінкарнацый
імгненна трапляеш у нірвану
праўда нельга паліць
целы манахаў
дзяцей
хворых на праказу
цяжарных
паэт Заур нечакана: ты не цяжарная!
паэтка Ольга: я жывая!
адказ вычарпальны

ты не цяжарны
не манах не хворы на праказу
зараз ты хочаш каб цябе спалілі
лепей на беразе Дзвіны
паэтка Ольга: якое прыгожае імя
*Дзві-на*
амаль грузінскае
добры цмок Тэма прыносіць хатняй чачы
*калі ласка*

у чырвонай машыне
хтосьці вучыць Тэму беларускай мове

апоўначы ты лезеш у спальнік
паэтка Ольга кладзецца побач
паэт Заур ідзе ў сваю *Аўдзі*
над вамі плыве грузінскае неба
грузінскія сузор'і складаюцца
у літары грузінскага алфавіту
проста над табой літара თ
ты яшчэ не ведаеш якая гэта літара

паэтка Ольга перабірае твае пальцы
лічыць пальцы нібыта ты марсіянін
нібыта ў цябе дваццаць сем пальцаў
два хвасты і чатыры вокі
у валасах паэткі Ольгі
дымок з нашай галактыкі

у сне ты шукаеш не паэтку Ольгу
ты шукаеш нарвежца Кнута
у мандарынавай вадзе відаць
толькі яе мандарынавы колер
у Кнута быў такі самы шалік
на беразе Кнут Гамсун
у абдымку з Адольфам Гітлерам
наперадзе пашча тунэля
ты заплываеш у пашчу
як Ёна ў чэрава левіяфана
у непрасвяцімым чэраве гукаеш:
*Кну-у-ут! Кну-у-ут!*
тунэль адказвае
*Гві-ра-бі-і*

***4***

цябе будзіць яшчарка
у яшчаркі смарагдавы жываток
Ольга кажа: дзяўчынка
у яшчаркі гагатавыя вочкі
на патыліцы цёмная плямка
трэцяе вока кажа Ольга
трэцяе вока бачыць два колеры
сіні і зялёны
трава і неба

Тэма дыміць як два кітайскія цмокі
яшчарка не баіцца дыму
Тэма варыць каву пытаецца
ты быў у Кітаі?
Тэма таксама не быў
чаму пытаешся Тэма?
Тэма ахутваецца дымам:
ты ведаеш трэцім вокам
яшчарка бачыць не толькі траву і неба
трэцім вокам яшчарка бачыць сутнасці

Заур прыносіць хачапуры па-аджарску
па-аджарску значыць з разбітымі яйкамі
вырачаныя вочы хачапуры
колеру ракі Аджарысцкалі
вочы глядзяць на цябе з пагрозай
Тэма ківае на раку быццам вы адплываеце
што ў вас у Батумі?
паэтычны пленэр
*понимаю* кажа Тэма
*очень много поэзии очень много вина*
ці запомніў я назву?
*Гвірабі п’е самотны рабін*

вас праводзяць
мандарынавая рака Аджарысцкалі
цмок Тэма і яшчарка
Тэма гаворыць з яшчаркай
называе яшчарку яе казачным імем

*5*

ваш гатэль пахне віном кавай
легалізаванай траўкай
гатэль маленькі несучасны
гаўбцы тэрасы галерэя лёгкі водар чачы
на тэрасе камендант пленэру Давід
ты не даеш веры што ў філіжанцы кава
Давід выдае на каго заўгодна
толькі не на грузіна
на папуаса з Новай Гвінеі кажа Давід
такія ледзь не засмажылі
вучонага Міклуху-Маклая
не было там Давіда

ты хочаш гісторыю
з яе барадаўкамі і ранамі?
любая дамова з Расеяй
не каштуе паперы на якой складзеная
Аляксандр І падцёрся
Георгіеўскім трактатам
Давід пераканаўча паказвае
як Аляксандр І падцёрся

ты ведаеш храм Метэхі?
яму 1500 гадоў
ты ведаеш яны зрабілі там турму
яны збівалі грузінскія фрэскі
у Давідаву філіжанку капаюць
буйныя грузінскія слёзы
ты ведаеш яны забаранілі

гаварыць па-грузінску ў школах
Акакія Цэрэтэлі
білі ў гімназіі па руках лінейкай
Давід дадае ў філіжанку цукру
няўжо там сапраўды кава?

на даляглядзе два твае
таленавітыя суайчыннікі
у руках у кожнага суайчынніка
пустая пяцілітровая каністра
уначы твае суайчыннікі
сустракаліся з белымі пеліканамі
белыя пеліканы сядзелі на пальмах
бегалі па батумскім пляжы
хацелі адабраць каністры
Давід: вы першыя да каго ў Батумі
прыляцелі белыя пеліканы

*Гвірабі* няма ўжо ў дзесяці крамах
у адзінаццатай краме твой тэлефон
гаворыць голасам Тэмы
*Hard Day's Night*

***6***

заўтра на пленэры твой выступ
тэма: беларуска-грузінскія
паэтычныя сувязі баляванні наезды
войны замірэнні тэрытарыяльныя прэтэнзіі
слова тэма ты думаеш з вялікай літары

Тэма едзе горнымі дарогамі
усцяж мандарынавай ракі
з Тэмам едзе яшчарка
трэцім вокам яна бачыць сутнасці
калі Кнута знойдуць
ты вып'еш з Кнутам *Гвірабі*

пагаворыш пра Кнута Гамсуна
у студэнцкія гады ты чытаў *Голад*
вырашыў два дні не есці
грошай усё адно не было

Гамсун маліўся на Гітлера
Кнут: наша любоў да Гамсуна
мацней за нянавісць усяго на мезенец
Гамсун прывід
Гамсун не хоча заставацца ў магіле

у вас свае прывіды
аднаму далёка да магілы а ён ужо прывід
на магілу другога ты ездзіў зноў і зноў
піў пад крымскімі кіпарысамі херас
чытаў вершы
палохаў начных вартаўнікоў
цябе слухалі цыкады яшчаркі
уважлівы чорны кот з белай грудкай
цяпер ужо не паедзеш
а колькім прывідам няма куды прыткнуцца
стралялі як зайцоў закопвалі як падлу
у нарвежцаў ёсць пісьменнікі без магіл?
*Гвірабі*

### *7*

твой выступ а трэцяй
ты пачынаеш неверагодна бадзёра
паэт Тадэвуш Лада-Заблоцкі
выслалі на Каўказ
не разгубіўся
баляваў з Нікалозам Бараташвілі
называў яго проста Мікола
сябраваў з дочкамі Аляксандра Чаўчавадзэ
ледзь не звёў Ніно ад Грыбаедава
за вакном з поўнымі каністрамі

ідуць да белых пеліканаў
твае таленавітыя суайчыннікі
табе страшэнна карціць далучыцца

ты пераскокваеш праз цэлае стагоддзе
прыма тэатра Руставелі
Тамара Цулукідзэ
Афелія Шэкспіра Амалія Шылера
потым п’есы *Турма Катоўня Лесапавал*
зрабілася беларускай пісьменніцай
ёй было восемдзесят табе трыццаць
але грузінкі ў любым веку
Давід спыняе цябе
Давід аберуч трымае рог у срэбнай аздобе
*твоё Гвираби дорогой!*
*такой содержательный доклад*

*Гвірабі*
рубін з фіялетам
у букеце ноткі граната
чорная парэчка
спецыі з велікакняскіх сталоў
твае рэцэптары спяваюць
па нотах чорнага шакаладу
чарнасліву
прыпраў царыцы Тамары
дадаецца смак
жаночых вуснаў смочак улоння
ліловыя прыцемкі
сонечныя бліскаўкі
ноткі надзеі паняверкі роспачы
прыцягненне стромы прадоння бездані
апошняе што ты бачыш
воплескі паэткі Ольгі
рукі разлятаюцца шырэй за плечы
імкліва злятаюцца

на некаторых мовах
рука і крыло гэта адно слова
рукі паэткі Ольгі разлятаюцца
заміраюць
далей *Гвірабі*

***8***

ты вяртаешся з *Гвірабі* ў свой нумар
у памяці быццам арэхі ў чурчхеле
плаваюць туманныя твары паэтаў
каля ложка паэтка Ольга
ноч навальніца залева
кроплі пішуць на вакне
штосьці важнае па-грузінску
паэтка Ольга гладзіць цябе па галаве
рука сухая цёплая
невымоўна ласкавая яшчарка
яшчаркі не баяцца залевы
цыкады таксама не баяцца

паэтка Ольга пытаецца
як на тваёй мове *целомудрие*
*цнота?*
амаль грузінскае слова
ты разумееш якое слова
пішуць на шкле грузінскія кроплі
*цнота цнота цнота*
на большае ты зараз не здатны

кроплі малююць на шкле
аджарскага паэта Заура
паэт Заур заходзіць з гаўбца
старанна як і належыць паэту
падбірае словы
*я загоню рог который ты пил*
*тебе в жопу*

ты: *это же просто баллада!*
паэтка Ольга пляскае
як умее толькі яна

***9***

ад *Гвірабі* лекуе толькі *Гвірабі*
пасля рогу пляшка здаецца кілішкам

*Гвірабі* вяртае ў іншы час
тады свой час ствараў ты сам
выдзьмуваў час
вясёлкавымі мыльнымі пухірамі
мелодыяй трысняговай дудачкі
трапяткой куляй на экскурсіі ў гуце
чамусьці ты думаў:
твой час нараджаецца ад твайго дыхання
для полацкага мальца зусім няблага

*Гвірабі* вяртае ў іншы час
яшчэ былі жывыя
усе жанчыны якіх ты кахаў
або думаў што кахаеш
або ніколі не кахаў
некаторыя яшчэ не нарадзіліся
некаторыя не народзяцца ніколі

*Гвірабі*
доўгі сухі пасмакунак
ты хочаш назваць пасмакунак
анталагічным
грузінскі паэт Паата згодны
Паата з Сухумі
калі едзеш па Грузіі
увесь час павароты на Сухумі
у Сухумі не даедзеш

калі даедзеш не вернешся
праз *Гвірабі* Паата трапляе ў Сухумі
магіла бабулі Сафіко
ніхто не ўмеў рабіць такое лобіо
ты трапляеш праз *Гвірабі*
у хату бабулі Аўгінні
бабуля робіць цудадзейныя лекі
хлебны мякіш і павута
у цябе ні разу не атрымалася

у Лондане яшчэ жыве албанка Арта
на яе мове крыло і рука гучаць аднолькава
гучаць па-птушынаму *кра кра*
*Арта* значыць Залатая
хваля па-албанску *вальбона*
над морам расцвітае
першая грузінская зорка
зорка па-албанску *юлка*
Арта трапіла пад трамвай
ты забыўся як па-албанску смерць
затое памятаеш: рэха *эхона*
у *Гвірабі* гучыць доўгае рэха
рэха завуць Арта
Тэма не звоніць

табе сніцца што ты яшчарка
трэцім вокам на патыліцы
ты бачыш Ольгу
Ольга таксама яшчарка
да вас лятуць белыя пелішканы
ты не аддасі пеліканам яшчарку Ольгу

***10***

пленэр на беразе мора
паспрабуй на каменьчыках
выкласці з каменьчыкаў нечае імя
нават калі ў імі ўсяго пяць літар

паэт Паата стаіць на глыбіні па калена:
*я веру што бачыў Бога*
*Бог стаяў на парозе пошты*
*у руках мая кніжка і пляшка чачы*
у перакладзе ты зрабіў *пляшку Гвірабі*

Ольга стаіць на каменьчыках босая:
*нечакана выявілася*
*слова каханне*
*прысутнае і ў іншых мовах*
*далей як у фільме*

пленэр працягваецца ў моры
да цябе падплывае медуза
калі медузы доўга жывуць
калі медузы вандруюць па свеце
медуза можа памятаць
твайго сябра мастака Міколу
Мікола марыў пра Рым
убачыў Рым
правёў у Рыме ноч з жанчынай
вярнуўся на ўзбярэжжа ў Рыміні
гушкаўся на хвалях
захлынуўся на глыбіні па калена
здзяйсненне мараў
заўсёды дыхае небяспекай

да цябе падплывае аджарскі паэт Заур
плавае кругамі
кругі ўсё вузейшыя
ты просіш Заура прачытаць верш
верш зусім кароткі
*если б ты не был поэтом*
*ты бы уже кормил рыбок*

## *11*

паэтка Ольга не ўмее плаваць
на спіне ў паэткі Ольгі жыве радзімка
памер манеты 1 тэтры
ты думаеш колькі мужчын
цалавалі гэтую манету
колькі за яе можна купіць
цябе найлепей разумее
жывы батумскі помнік Алі і Ніно
Алі і Ніно сыходзяцца
праходзяць адно праз аднаго
жарсць па-албанску *дэшыра*

паэтка Ольга просіць прачытаць
твой улюбёны верш
*о Радзіма мой светач цудоўны адзіны*
*явар мой мой агністы снягір на сасне*
*ледзь цябе не забыў я з чужою жанчынай*
*што ў душы не хацела і ведаць мяне*[1]

пра што верш?
верш пра снегіра
такая птушачка з чырвонай грудкай

Алі і Ніно доўжаць свой танец
як гучыць імя Ольга на маёй мове?
*Вольга*
на адну літару болей
табе не здаецца што літара В
вельмі эратычная?
у нас іншыя літары кажа Ольга
у бэзавым сутонні яе словы
пацвярджае батумская вежа-алфавіт
па вежы бягуць грузінскія літары
вось з гэтай ო пачынаецца маё імя
а вось гэтай რ тваё імя сканчаецца
вельмі эратычныя літары

калі ты будзеш называць мяне Вольга
будзем пачынацца з адной літары
ты не паспяваеш узрадавацца
у цябе былі жанчыны па імені Вольга?
у мяне была Арта
загінула пад трамваем у Лондане

звоніць Тэма
вадалазы нічога не знайшлі
прывітанне яшчарцы
Тэмаў голас цяплее
як завуць тваю яшчарку?
яшчарку завуць Дані
чаму Дані?
адказ у *Гвірабі*

***12***

у Тбілісі Давід кажа
у Грузіі няма жабракоў
на праспекце Руставелі жабракі
яны не грузіны кажа Давід
але чаму просяць па-грузінску?

*Гвірабі* дэшыфруе
жыццяпісы жабракоў
чапурыстая чорная галка
чорная спаднічка з карункамі
дзяліла ложак з Тыцыянам
не з тым хоць хто ведае
з Тыцыянам Табідзэ дакладна

Тыцыян падыходзіць да вакна
срэбнагаловы ў вішнёвым шлафроку
*табе трынаццаць а ў тваім палоне*
*сівога сэрца роспач і агонь*
*трынаццаць куляў пакладзі ля скроні*

*трынаццаць стрэлаў разарвуць мне скронь*
*і праміне яшчэ трынаццаць вёсен*
*і дваццаць шостым летам пад касой*
*загінуць касачы й заплача восень*
*а з ёю верш мой выпадзе расой*[2]

Тыцыян не ўратуе жонкі
ад арышту і расстрэлу
Тыцыян падыходзіць да вакна вар’ятні
падыходзіць у шэрым хітоне вар’ята
гэта апошняе вакно Тыцыяна
жонку звалі Ольга

вы з Вольгай
пакідаеце каханцы Тыцыяна
50 лары
ад царыцы Тамары кажа Вольга
яшчэ 10 лары ад Акакія Цэрэтэлі
уваччу пальцы Акакія
разбітыя да крыві расейскай лінейкай
у кутаіскай гімназіі

Ніко Пірасмані пашанцавала
Ніко не вучыўся ў гімназіі
Пірасмані Грузія прысвяціла
купюру 1 лары
гэта снабізм!
вы з Вольгай
пакідаеце некалькі партрэтаў
Ніко Пірасмані
у дзвярах музея Пірасмані
музей самы маленькі ў свеце
шэсць квадратных метраў
у каморцы пад лесвіцай ложак
замест шафы скрынка
ці прыходзілі сюды жанчыны?
Вольга кажа яна б прыходзіла

звоніць Тэма
вадалазы знайшлі
чаравік і мандарынавы шалік
нарвежац Кнут піў *Гвірабі*
*Гвірабі* ратуе

### *13*

ты ідзеш з Вольгай вуліцай Леселідзэ
ці ішоў Кнут да моста Тамары
вуліцай Леселідзэ?
такая вясёлая вуліца
давай назавем яе вуліцай Весялідзэ
ці чытаў нарвежац Кнут выслоўі
на ўсіх вядомых рэстаратарам мовах?
*чача на смак амаль аднолькавая*
*а прыгоды такія розныя*
або
*віно не п'юць а разгадваюць*

габрэйскі рэстаран *У Давіда*
сёння памінаюць Шымона Перэса
віно *Машубах*
на іўрыце *Найлепшае*
гаспадар рэстарана: *вы евреи?*
Кнут хаваецца
ты: *Гвірабі п'е самотны рабін*
гучыць як пароль
на якой гэта мове?
на ёй гаварыў у дзяцінстве Перэс

столік для важных гасцей
абедзве нагі Кнута ў чаравіках
на шыі сухі мандарынавы шалік
ты кажаш нарвежцу Кнуту
у адным з тваіх вершаў
гучыць бурштынавая музыка Грыга

верш называецца
*Ранішні верш пра твае грудкі*
Кнут з разуменнем глядзіць на Вольгу
Вольга адказвае па-беларуску: *цнота*

у размову ўступае *Гвірабі*
з *Гвірабі* спрабуе вылезці
Брэйвік
Кнут з Брэйвікам
вучыліся ў суседніх школах
гулялі ў футбол і пінг-понг
Брэйвік быў такі сарамлівы
яны ўсе даўно факаліся з дзяўчатамі
Брэйвік толькі глядзеў парнушку

ты робіш памылку:
пасля другой пляшкі *Гвірабі*
Кнут знікае
*Гвірабі* ўсмоктвае яго
як тунэлі ўсмоктваюць
мандарынавую раку Аджарысцкалі
як рог з *Гвірабі*
усмактаў цябе самога
ты трымаеш Вольгу за руку
Вольга не знікае

вуліца Весялідзэ прыводзіць вас
да начнога вадаспаду
юная парачка
дзёрзка караскаецца па скалах
напэўна там можна незабыўна
ты шукаеш слова
Вольга падказвае: *цнота*

***14***

духан *Рача*
падвальная сталоўка
рай для гурманаў
прыносіць і распіваць дазваляецца
*Гвірабі*

за суседнім сталом трое
першы азіраючыся:
*жаль не доехали тогда из Гори*
*один час на танке*
*зато меню принесли бы нормальное*
*без этих бля..ких закорючек*
другі паказвае вачыма на вас
*тише местные просекут*
*хоть вроде непохожи*
першы: *может они за нас?*
трэці дастае купюру 200 лары
*вы в курсе что за хер на портрете?*
*зовут Какуца*
*как вам имечко?*
*когда-то русских в горах резал*
першы: *да не доехали*
*а ты вчера на эту Мацуманду сходил?*
трэці: *вроде того*
*там пантеон ихни*
*грузины и все мёртвые*
*приятно бл.дь*
Вольга ўстае:
*на ваших могилах*
*не вырастет даже трава!*
першы ўскоквае:
*ах ты шалава! замаскировалась!*
нажы тупыя як задніцы
ты сціскаеш у кулаках два відэльцы

другі і трэці: *уё..ваем ребята!*
*зарежут суки уё..ваем!*
*Гвірабі*

### *15*

карабель гары Мтацмінда
плыве над начным Тбілісі
у грузінскую вечнасць
твой самалёт а трэцяй ночы
у пантэон вы безнадзейна спазніліся
гучыць даволі двухсэнсоўна
вартаўнік не хоча купюры
з партрэтам Іллі Чаўчавадзэ
не хоча ніякіх партрэтаў
замыкае за табой і Вольгай браму

Ілля Чаўчавадзэ
глядзіць на вас з помніка
на вас глядзіць Тыцыян Табідзэ
глядзіць Какуца Чалакашвілі
у цябе засталася купюра 200 лары
аверс Какуца
рэверс Сухумі
паэт Паата не можа паехаць у Сухумі
калі б ты не мог паехаць у Полацак?
перайшоў бы перад Дзядамі мяжу
быў бы расстраляны
на звярыных сцежках
расейскімі памежнікамі?

Вольга перакладае вязь эпітафій
ты перакладаеш яшчэ раз
*нават косці думаюць пра Грузію*

надмагілле аздобленае яшчаркай
яшчарка ажывае

*Дані Дані* клічаш ты
яшчарка заплюшчвае вочкі
глядзіць на цябе трэцім вокам
бачыць твае сутнасці
табе робіцца вусцішна
Вольга гаворыць з яшчаркай па-грузінску

надмагілле з чорнага і белага мармуру
цябе сустракае твой герой
калісьці ты напісаў на пяску ў Піцундзе
*ГАМСАХУРДЗІЯ НАШ ЧАЛАВЕК*
потым напісаў гэта ўверсе старонкі
эсэ пераклалі на грузінскую
магчыма Звіяд чытаў

Звіяд туляўся па горных лясах
галодным ваўкалакам
Звіяд чуў у горных вёсках
званы Мцхеты
хто стрэліў Звіяду ў патыліцу?

*Гамсахурдзія наш чалавек!*
кажаш ты ўголас
твае словы падабаюцца
не ўсім прысутным
*Гамсахурдзія наш чалавек!*
Вольга пляскае
як умее толькі яна
на некаторых мовах
рука і крыло гэта адно слова

*Гвірабі*
корак выстрэльвае як куля з пісталета
Тэма чуе стрэл
на беразе ракі Аджарысцкалі
нарвежца Кнута знайшлі ў тунэлі

нічога не памятае
прасіў аддаць чаравік і шалік
*выпі Гвірабі*
кажа Тэма па-беларуску
*у мяне таксама Гвірабі*
няўжо гэта яшчарка дае яму ўрокі?
Тэма чаму тваю яшчарку завуць Дані?
*так завуць маю жанчыну ў Кітаі*
*Гвірабі*

перадай Дані кажаш ты
каб асцярожна пераходзіла вуліцу
асабліва перад трамваямі
твой голас здрадліва трымціць
*яна вернецца* кажа Тэма
*Гвірабі*

Вольга доўга гаворыць па-грузінску
з магіламі
да твайго самалёта тры гадзіны
Вольга доўга гаворыць па-грузінску
з табой
пераклад зусім кароткі: *цнота*
Вольга здзьмувае свой пераклад
з далоні
Вольга абдымае цябе так
як не абдымаў ніхто на свеце
яшчарка Дані заплюшчвае вочкі

[1] Фрагмент верша Уладзіміра Караткевіча «Снягір».

[2] Пераклад Андрэя Хадановіча.

## *ПАЭТЫЧНЫ ФЭСТ У ДРУСКЕНІКАХ*

*Антанасу Янінасу*

твой арганізм атручаны паэзіяй
паэзію даюць на сняданак
у яечні з беконам
у каве з вяршкамі
у зялёнай і чорнай гарбаце
чорная рыфмуецца з турмой

чытаеш верш
*Ліст начальніку турмы*
на экране пераклад
літоўская і англійская
ці марыў ён у дзяцінстве
стаць начальнікам турмы?
якія кнігі ў яго бібліятэцы?
Франсуа Віён?
том Оскара Уайлда
з *Баладай Рэдынгскай турмы*?
нехта з вязняў у 1937-м
надрапаў на тынку
*РАДЗІМА*
так і засталося
начальнік турмы
загадаў не зафарбоўваць
радзіму трэба любіць
паўсюль

што зала ведае пра 37-мы?
што ты ведаеш пра 37-мы?
ведаў твой дзед
калі-небудзь раскажа

паэтка з Брытанскіх выспаў:
ці мог ваш начальнік турмы
чытаць Уайлда?
паэт з Венесуэлы
ведае чалавека які з дзяцінства
марыў стаць начальнікам турмы
стаў ім
мары здзяйсняюцца
ці мог ён чытаць Уайлда?
адказ станоўчы

адзін слухач упэўнены: ты сядзеў
другі сядзеў сам
запрашае выпіць
самагон грэе лепей за чытацкую любоў
апрача таго дэзынфекцыя

твой арганізм атручаны паэзіяй
на абедзе паэзія ў начынцы цэпелінаў
пачынаеш разумець
чаму бульбяныя клёцкі
названыя ў гонар лятальных апаратаў
кухары служылі таксама
прыдворнымі паэтамі
або наадварот
або лёталі на цэпелінах
бразнуліся аб глебу
смачна есці!

на календары 8 кастрычніка 2015-га
Стакгольм не падвёў

Нобель у Святланы Алексіевіч!
літоўскі паэт віншуе:
цяпер Літве не дадуць ніколі
там ведаюць геаграфію
абдымае за плечы латышку і эстонку:
вам таксама не свеціць
расслабцеся

харвацкі паэт
расслабляецца роднай слівовіцай
частуе цябе з японкай
ім Нобеля ўжо давалі
думаеце дапамагло?

японская паэтка
аддае перавагу сакэ
просіць напісаць *Алексіевіч* па-беларуску
Харукі Муракамі
трымаўся ў  букмекераў на другім месцы
японка не чула
просіш напісаць *Муракамі* па-японску

паводле Нобелеўскага камітэта
сёння дзень прозы
але
твой арганізм атручаны паэзіяй
паэзія ў свіных вушах з лісічкамі
у вегетарыянскіх салатах
у не разбаўленым нічым мацнейшым
таматным соку
слівовіца стала ўспамінам
гомеапатычныя дозы літоўскага самагону
могуць давесці да шпіталізацыі
няхай жыве беларускі бальзам!
цудоўны антыдот
колер нечай нобелеўскай зайздрасці

не сумуй літоўскі калега
вам таксама калі-небудзь дадуць
але спачатку зноў нам
вось пабачыце

чытаеш верш
*Дзяўчына з касой*
вакзал заплечнік з флікерам
лязо ў тугіх бінтах
пакуль прыехала не да цябе
яшчэ ёсць прывідныя шанцы

адна слухачка
хацела б прыехаць да цябе
ты зможаш сустрэць?
калі захопіць касу-літоўку
выдатная рыфма:
літоўка – *літоўка*
не верыце – калі ласка ў *Google*

польскі паэт кажа
тут побач пахаваны Ян Чачот
едзеце на могілкі
выпіваеце за Яна Чачота
звоніць твой сотавы
гэта Чачот кажаш ты
той хто набраў нумар маўчыць
просіш яго паслаць *sms*

дадалі Чачота
у спіс удзельнікаў фэсту
спрабуеце ўзгадаць на памяць
хоць адзін яго верш
няхай жыве
сусветнае брацтва паэтаў!
на тым і на гэтым свеце!

у тым і гэтым сусвеце!
ах якія рыфмы!

удакладняеш:
брацтва і сястрынства
паэтаў і паэтак

харват частуе японскую паэтку
падступна прыхаванай слівовіцай
іспанскі паэт удзельнічае ў дэгустацыі
падымае вялікі палец угору
хоча зрабіць японцы прыемнае
кажа: сакэ – *mierda*[1]
адбірае ў вавёркі ў парку арэх
трэба закусіць
зараз ягоны выхад

іспанскі паэт чытае верш
пра іспанскі горад Барселону
іспанскага дойліда Антоніа Гаўдзі
іспанскага мастака Хуана Міро
адзін слухач не вытрымлівае:
*Catalunia is not Spain!*
гэты слухач не ты
але ты пляскаеш
зала таксама
верша ўжо не чуваць
бурныя працяглыя апладысменты
*Catalunia is not Spain!*

цвёрдым крокам падымаешся на сцэну
чытаеш верш
*Музей гадзіннікаў у Браціславе*
урэшце ўсе мы ператворымся
у даканалыя часткі
сусветнага пясочнага гадзінніка

на экране пераклад
літоўская і англійская
*mierda* кажа іспанскі паэт
відавочна пра пераклад

польскі паэт чытае верш які
ты перакладаў на беларускую
*не маеш дому*
*ёсць побач горад*
*засохне дрэва*
*застанецца лес*
*канае чалавек*
*перакульваецца свет*

на даляглядзе перакульваецца
невядомы паэт з невядомай краіны
свет не канае
паэт таксама жывучы

японская паэтка чытае верш:
нікому нельга верыць
ні манархістам
ні сепаратыстам
ні камуністам
ні хрысціянам
ні дзэн-будыстам
ні ёй самой
харвацкі паэт кажа
пасля ўчорашняга – святая праўда

харвацкі паэт чытае верш
у верша толькі назва
назва *Цішыня*
далей таксама цішыня
на чыстым экране імёны перакладчыкаў
літоўская і англійская

геніяльныя рыфмы
найлепшыя пераклады

твой арганізм атручаны паэзіяй
да самых карэньчыкаў валасоў
добра шведскаму паэту
ён лысы
прытым
прадбачліва не прыехаў
глядзіць з фоткі на праграмцы
дзякуй за Алексіевіч!

літоўскі паэт чытае верш пра магаў:
знайшлі ў смеццевым кантэйнеры
мёртвае немаўля ў пластыкавым пакеце
не паднеслі яму дароў
не пахавалі
не хацелі праблем з паліцыяй
пакінулі пакутаваць за нашы грахі

твой арганізм атручаны паэзіяй
стаіш з біклажкай у руках
з біклажкай дзе скончыўся антыдот
трэба ісці ў нумар на запраўку

украінскі паэт чытае верш:
стаіш з квітком у руках
з квітком на цягнік які сышоў
крычыш у сцяну
яна – нічога нармальна – слухае
на ёй падазроныя плямы
быццам тут кагосьці
ну самі разумееце

двое слухачоў падымаюць
жоўта-блакітны сцяг

трэці выгуквае:
слава бандэраўцам!

чытаеш верш
*Я марыў стаць патолагаанатамам*
мара спраўдзілася
але не ў цябе

адна слухачка кажа
яе званітавала ў пакецік
чытайце такія вершы ў трупярнях!
другая слухачка гатовая да знаёмства
пакуль без скальпеля
можна глыбей
для анестэзіі
цёмны як кроў патолагаанатама
беларускі бальзам

у развітальнай вечарыне
калі верыць праграмцы
бяруць удзел
*William Shakespeare*
*T.S. Eliot*
*Robert Frost*
*Walt Whitman*
*Rudyard Kipling*
*John Milton*
*Dante*
*and* нейкія *Others*

даехалі не ўсе
аднак сэр Кіплінг
ужо рытмічна пагойдваецца
з ім рыфмуецца Ўітмэн
Эліёт спрытна зафіксаваўся
эпіграфам да барнае стойкі

дзе – ты пытаешся
гендарны баланс?
нельга было запрасіць Сапфо?
або Габрыэлу Містраль
або Віславу Шымборску
ці рызыкнуць нават
Эльфрыду Елінэк

аднаўляеш баланс на пустэльнай набярэжнай
літоўская паэтка чытае толькі табе
верш – пра поўню
на небе няма перакладу
калі не лічыць самой поўні
у рацэ таксама поўня
гэта пераклад на беларускую
перакладчык вядомы

запомні
жорстка кажаш ты
гэтая рака завецца Нёман
запомні
ласкава кажа літоўская паэтка
гэтая рака завецца Нямунас
іначай нічога не будзе

у самы напружаны момант
у зарасніках глогу
крычыць начная птушка
гэта паэт з Егіпта
*remember*
кажаш ты паэту з Егіпта
*this river is called the Nioman*
*baćka Nioman*
*baćka!*
радасна галёкае паэт з Егіпта
*are you from Belarus?!*
вечар атрымаўся

дастаеш біклажку
ты: *belarusian liqueur!*
паэт з Егіпта: *is it alcohol?*
ты: *no it isn't*
вы бачылі як п'юць
асмяглыя жыхары Сахары?

паэт з Егіпта:
*no! it isn't alcohol!*
залазіць на лавачку пад залатым клёнам
дэкламуе верш
тваёй англійскай не хапае
літоўская паэтка перакладае
верш як сфінкс ацэньвае
новую геапалітычную сітуацыю
у Паўночнай Афрыцы

над Нёманам выбухае феерверк
паэт з Егіпта ацэньвае сітуацыю імгненна
падае пластуе  за клён
нічога смешнага
гарэлі б яны гарам
гэтыя каляровыя рэвалюцыі

кавярня атручаная паэзіяй
Мілтан дрэмле ў абдымках
маладога прыхільніка
Эліёт захапіў месца бармэна
латышская паэтка аддаецца ўспамінам
даўні фэст у Ашгабадзе
святкавалі з беларусамі Ліго
па-вашаму Купалле
скакалі ў гатэлі
цераз паваленыя таршэры
напісала пра гэта верш
пасля глытка бальзаму згадае

наперад! усім шукаць таршэры!
у парку гусцее атручаны паэзіяй туман
латышская паэтка чытае пад ліхтаром
верш пра таршэры
сярод слухачоў можна заўважыць
трох паліцэйскіх
адзін тлумачыць:
у парку не растуць таршэры
*а ви що Карл Ліней?*
пытаецца паэт з Украіны

паваліць слуп з ліхтаром доўга не ўдаецца

паэтычныя чытанні
працягваюцца ў паліцыі
ты цалкам гатовы даць паказанні
*yes*
твой арганізм атручаны паэзіяй
паэт з Егіпта ўдакладняе:
*it isn't alcohol!*
паліцэйскі сумняецца
краіна пражывання?
ты (урачыста):
*Magnus Dukatus Poesis!*[2]
паліцэйскі (задуменна):
зараз прыедзе Вергіліюс
ты (ветліва):
няхай захопіць Гарацыюса з Катуласам
і Шэкспіраса

з'яўляецца Вергіліюс
вядзе Ўітмэна і Эліёта
Шэкспірас ідзе сам
бярэ мышку ад кампутара
пачынае ўпэўнена дэкламаваць у мышку
замест мікрафона
чамусьці па-літоўску

радкі знаёмыя
ты перакладаў іх на беларускую:
*ну вось і ўсё... цяпер ужо капец*
*на небе поўня*
*думкі што адбой праз хвілю...*

Вергіліюс: яшчэ адзін пратакол!

адбіраеш у Шэкспіраса мышку
падносіш да вуснаў
ты хочаш зрабіць палітычную заяву
цішыня не запаноўвае
прашу паэтычнага прытулку!
нетэатральна п*а*даеш
з галавой накрываешся праграмкай

бачыш як у дзверы
з баявой харугваю фэсту
урываюцца
Дантэ з Хаданавічусам
Муракамі з сакэ і сакурай
венесуэльскі паэт з калашнікавым
*and Others*

дзесьці за сцэнай
Бон Джові спявае песню
на твой даўні верш
*it's all the same*
*only the names have changed*
*усё па-ранейшаму*
*толькі імёны змяніліся*

[1] Лайно (*ісп.*).
[2] Вялікае Княства Паэзіі (*лац.*).

## Змест

## Сцісла пра аўтара

Уладзімер Арлоў — празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай Мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала», «Танцы над горадам» ды інш. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010), «Залаты апостраф» (2015). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

*У серыі*
*«Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў"»*
*выйшлі кнігі:*

*1. Анатоль Івашчанка. «Вершпіск».*
*2. Васіль Быкаў. «Бліндаж».*
*3. Усевалад Сцебурака. «Крушня».*
*4. Сяргей Дубавец. «Вершы».*
*5. Анатоль Кудравец. «За дальнім прычалам».*
*6. Леанід Дранько-Майсюк. «Цацачная крама».*
*7. Сяргей Прылуцкі. «Дзевяностыя forever».*
*8. Тацяна Сапач. «Няхай не пакіне нас Восень».*
*9. Галіна Дубянецкая. «Анадыямэна».*
*10. Віктар Шалкевіч. «Блюз Вясна».*
*11. Вершы-прысьвячэньні Анатолю Сысу «Ягамосьць».*
*12. Ніл Гілевіч. «Замова ад страху».*
*13. Дзмітры Плакс. «Трыццаць тэкстаў».*
*14. Аляксандар Л. «Зкімбы-зымбы». Кніга люстрацыяў.*
*15. Наталля Русецкая. «Каштаны ў кішэнях».*
*16. Людміла Рублеўская. «З'яўленне Інфанты».*
*17. Леанід Галубовіч. «Поўня». Выбранае.*
*18. Валянціна Аксак. «Дзікая сліва».*
*19. Міхась Скобла. «Камізэлька для месяца».*
*20. Іна Снарская. «Вогнепаклонніца».*
*21. Уладзімір Някляеў. «На ўсякім свеце».*
*22. Віктар Казько. «Казань пра ката, каторы смяяўся».*

